

# НАША СЛОВА

Культурна-асветніцкая штотыдднёвая беларуская газета

(Выходзіць з сакавіка 1990 г.) **№ 5 (321)** 30 студзеня —5 лютага 1997 г. Кошт -- 1500 рублёў




## ЕЎРАПЕЙСКІ САЮЗ ІМКНЕЦЦА ЗРАЗУМЕЦЬ, ШТО ДЗЕЕЦЦА Ў БЕЛАРУСІ

Місія Еўрапейскага саюза на чале з членам Дзяржаўнага савета Нідэрландаў Анры Коста прыбыла ў Беларусь, каб на месцы зразумець, ці адпавядае палітычная сітуацыя ў нас агульна прынятым дэмакратычным нормам.

Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка, паводле каментара з гэтай нагоды міністра замежных спраў І.Антановіча, заявіў, што заходні напрамак знешняй палітыкі Беларусі па-ранейшаму застаецца прыярытэтным разам з усходнім. Гэта азначае, па словах міністра, што Беларусь будзе імкнуцца да інтэграцыі з усімі еўрапейскімі структурамі на аднолькавых правах як дэмакратычная, суверэнная дзяржава.

**Згодна інфармацыі БелТА.**

## ПОСТУП ТЫДНЯ



○ **На брыфінгу у МЗС нашай краіны сустрэўся з журналістамі намеснік міністра замежных спраў Міхаіл Хвастоў.** Ён спыніўся на асноўных момантах у знешнепалітычным жыцці Беларусі і яго ведамства. Што тычыць апошняга, то тут падзеяй нумар адзін стала пашыраная калегія МЗС з удзелам Прэзідэнта, дзе Аляксандр Лукашэнка, у прыватнасці, сказаў: "Для нас галоўны прыярытэт — Расія. Альтэрнатывы супрацоўніцтву з ёю няма. Але адносіны з Расіяй не закрануць дзяржаўнасць і суверэнітэт Беларусі". Дай то Бог!

○ ***Прэзідэнт Украіны Леанід Кучма наведаў з афіцыйным візітам Польшчу, дзе правёў перамовы з прэзідэнтам Аляксандрам Квасьнеўскім.*** *Гаворачы пра адносіны з Беларуссю, абодва прэзідэнты выказалі ўпэўненасць, што палітычная і эканамічная блакада гэтай краіны, спроба павярнуцца да яе спінай не будуць садзейнічаць стабілізацыі там і прывядуць да таго, што ў беларусаў застанецца адзін шлях — у Маскву. Кучма і Квасьнеўскі гатовы прыняць прапанову Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі аб правядзенні трохбаковай сустрэчы лідэраў Украіны, Польшчы і Беларусі пры ўмове, што гэта будзе канкрэтная размова пра канкрэтныя справы.*

○ **На прэс-канферэнцыі міністр замежных спраў Украіны Генадзь Удавенка заявіў:** "Украіна выступае супраць ізаляцыі Беларусі на міжнароднай арэне". Па яго словах, Украіна разглядае Беларусь як суверэнную і незалежную дзяржаву і будзе падтрымліваць з ёю актыўнае супрацоўніцтва перш за ўсё ў гандлёва-эканамічнай сферы. Чаму б нам і з Расіяй спакойна не супрацоўнічаць ва ўсіх сферах, а не гаварыць пра інтэграцыю, палохаючы часам шчырых прыхільнікаў супрацоўніцтва з усімі суседзямі і ў першую чаргу з Расіяй?

○ ***У адпаведнасці з артыкулам 146 Канстытуцыі Указам Прэзідэнта Беларусі Старшынём Дзяржкамітэта па друку прызначаны Замяталін Уладзімір Пятровіч.*** *А Уладзімір Пятровіч Бельскі вызвалены ад гэтай пасады ў сувязі з пераходам на іншую работу. На якую? Пакуль не вядома.*

○ **У Менску прайшла Першая канферэнцыя няўрадавых арганізацый Беларусі.** Яе арганізатарам выступіў Клуб лідэраў беларускіх няўрадавых арганізацый, куды ўвайшлі прадстаўнікі Фонду імя Сапегі, фонду "Заканадаўчая ініцыятыва", Цэнтра "Беларуская перспектыва", Беларуская асацыяцыя журналістаў, НЦСІ "Усход-Захад". На канферэнцыю былі запрошаныя прадстаўнікі шматлікіх грамадскіх арганізацый рознай накіраванасці з Беларусі, фондаў, дыпламатычны корпус, прадстаўнікі так званага "трэцяга сектара" з Польшчы і Украіны. У выступленнях на канферэнцыі гучала думка, што ў такіх сітуацыях, як у нашай краіне, нельга спадзявацца на палітыкаў, а трэба перш за ўсё разлічваць на сябе — на прафсаюз, на сваё аб'яднанне, на сваю суполку; і што самі людзі павінны мяняць сваё жыццё.

○ ***Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь і нацыянальнае тэатральна-канцэртнае аб'яднанне "Беларуская капэла" выдалі зборнік песень Станіслава Манюшкі "З-над Нёмана і Дзвіны" на словы Яна Чачота.***

○ **За 1996 год берасцейскія мытнікі сумесна з пагранічнікамі затрымалі і вярнулі** ў даход дзяржавы кантрабанднага тавару на суму 58 мільярдаў рублёў. А колькі не затрымалі! Словам, яшчэ ёсць у нас што вывезці за мяжу і выгадна прадаць, а значыць, не такія мы ўжо і бедныя.

***Падрыхтаваў В. Ш.***

## Дзешавей за ўсё глядзець лялечныя спектаклі

*Цэны*

Міністэрствам культуры Беларусі выдадзены загад, якім зацверджаныя цэны на білеты тэатральна-відовішчных прадпрыемстваў ў сёлетнім годзе. Вызначаны максімальны кошт білетаў, які можа паменшацца ў залежнасці ад месца ў глядзельнай зале, а таксама папулярнасці таго ці іншага тэатра, спектакля ці выканаўцы.

Кошт білетаў у дзяржаўных тэатрах, як і раней, вызначаецца па трох катэгорыях: на ранішнія, вячэрнія і прэм'ерныя спектаклі. У музычных тэатрах максімальная цана білета цяпер 20, 55 і 70 тысяч рублёў адпаведна, у драматычных — 15, 25 і 35 тысяч. А вось у тэатрах лялек і юнага гледача — 10, 15 і 20 тысяч рублёў. Што ж, вельмі правільна: чалавека лепей прывучаць да тэатра змалку, заадно развіваючы ў яго добры густ на мастацтва. На філарманічныя канцэрты самыя дарагія білеты цяпер абыдуцца ў 50 тысяч рублёў, на эстрадныя праграмы калектываў і выканаўцаў, якія працуюць у дзяржаўных структурах,— 110 тысяч, а на цыркавыя прадстаўленні — 60 тысяч рублёў. У параўнанні з цэнамі на спектаклі залётных эстрадных зорак, даволі часта няпэўнага "ззяння", — гэта па-боску. Дай толькі Бог і дзяржава пракарміцца нашым цудоўным артыстам ды здолець трымаць форму.

**Л.М.**

## "Мы свядома зрабілі свой выбар на карысць беларушчыны"

*Сёння ТБМ перажывае не найлепшыя часы. Колькасць суполак і сяброў арганізацыі змяншаецца разам з яе ўплывам. Таму нечаканасцю стала ўтварэнне ў сталіцы новай суполкі Таварыства, сябрамі якой сталі людзі маладога ўзросту. Гэтая незвычайная падзея прыцягнула ўвагу карэспандэнта "Нашага слова", на пытані якога адказалі кіраўнік суполкі Дзмітрый Косаў — студэнт першага курса Беларускага дзяржаўнага тэхналагічнага універсітэта і яе сакратар — ягоны аднакурснік Сяргей Шафранскі.*

**— Як вы прыйшлі ў Таварыства беларускай мовы?**

— Пра існаванне ТБМ мы даведаліся ад нашай выкладчыцы беларускай мовы Тамары Федарцовай. Потым мы пагаварылі з загадчыцай кафедры нашага універсітэта і сакратаром Таварыства Вольгай Кузьміч, якая расказала, што ў гэтай арганізацыі працуюць найбольш вядомыя дзеячы культуры ды іншыя цікавыя людзі. Тое, што яна расказала, зацікавіла нас, і без таго неабыякавых да беларушчыны. Гэта быў першы крок.

Другім стала нашае знаёмства з іншымі студэнтамі, якія маюць падобны светапогляд. Разам з імі мы стварылі і зарэгістравалі маладзёвую студэнцкую суполку ТБМ.

**— Калі гэта адбылося і хто ў яе ўваходзіць?**

— Наша арганізацыя ўзнікла нядаўна — у снежні мінулага года. Пакуль што яна складаецца з дзесяці асобаў — студэнтаў сталічных вышэйшых навучальных установаў: лінгвістычнага універсітэта, эканамічнага універсітэта, БДУ ды іншых. Частка нашых сяброў — менчукі, іншыя прыехалі вучыцца з другіх гарадоў.

**— Які кірунак дзейнасці абрала вашая суполка?**

— Мы бачым, што моладзі ў ТБМ няшмат. Таму найперш мы хочам далучыць да нашай дзейнасці тых маладых, якім блізкія мэты і спосабы дзейнасці Таварыства. Моладзь мала карыстаецца беларускай мовай пapросту таму, што не ведае ўласнай культурнай спадчыны, літаратуры, фальклору. Гэта бачна нават у вёсках, дзе нашыя аднагодкі стараюцца гаварыць па-расійску, як прынята ў горадзе. А таму, аб чым не ведаеш, няма месца ў свядомасці, яно быццам бы не існуе. Мы хочам пазнаёміць з імі нашых аднагодкаў і адначасова — самі хочам ведаць іх глыбей. Спадзяёмся, у гэтым нам дапамогуць нашыя старэйшыя сябры — пісьменнікі, мастакі ды іншыя. Непасрэдныя іх кантакты з моладдзю паспрыяюць мове больш, чым заклікі да яе шанавання.

*(Заканчэнне на стар. 2.)*




*Кнігі*

Што гэтая кніжка пішацца, прыхільнікі беларушчыны ведалі даўно. Яшчэ на сесіях Вярхоўнай Рады 12-га склікання ўставалі ля мікрафонаў бальшавікі-ветэраны і "бамбілі" быццам бы за экстрэмісцка-нацыяналістычныя тэксты пра нашу мінуўшчыну, што асмельваецца пісаць Уладзімір Арлоў, а дзіцячыя часопісы, у тым ліку нават "Вясёлка", іх друкуюць. Ну, вось цяпер, нягледзячы на многія перашкоды, пісьменнік Уладзімір Арлоў дапісаў тую сваю кніжку, а выдавецкі цэнтр "Бацькаўшчына" яе выпусціў у свет. Тыя, хто ведаюць манеру пісьма Уладзіміра Арлова, адразу пазнаюць аўтара і тут: кнігу склалі займальныя, дасціпныя і добра абгрунтаваныя фактычным матэрыялам апавяданні па гісторыі Беларусі, пачынаючы з далетапісных часоў. Сярод герояў кнігі князь Рагвалод і Ефрасіння Полацкая, Вітаўт Вялікі і канцлер Леў Сапега, правадыры Крычаўскага паўстання, Тадэвуш Касцюшка і Кастусь Каліноўскі...

Уладзімір Арлоў развейвае некалькі міфаў, якія створаныя нядобразычліўцамі беларусаў, пра тое, што быццам іх гісторыя нецікавая, а яшчэ — што яны ніколі не мелі ўласнай дзяржаўнасці. І ўрэшце, што іх аднекуль "вызваліла" Расійская імперыя. "Вызваліла" ад адной з дасканалейшых еўрапейскіх канстытуцый — гэта так. Ад уласнай адметнай культуры — бясспрэчна. Але тое, што беларусы ўсё ж засталіся самабытным народам, таксама вельмі пераканаўча-канкрэтна пацвярджае ў сваёй таленавітай кнізе Уладзімір Арлоў.

У кнізе, дарэчы, ажно 70 каляровых ілюстрацый і заставак мастака В.Сташчанюка. А дадаць да гэтага дзве старажытныя, 1687 і 1750 гадоў, карты Russia Alba (Русі Белай) на адваротах вокладкі. Так што добрую справу зрабіла "Бацькаўшчына" і Беларускі Фонд Сораса, які аказаў матэрыяльную падтрымку.

Тыраж, 5 тыс. асобнікаў, безумоўна, малаваты. Мяркуючы па Менску, кніга разыдзецца хутка, і будзе патрэба зрабіць дадатковы наклад, магчыма, не адзін.

**Ул.Ас.**

*З нагоды*

## У МАСКВЕ ЯГО КЛІЧУЦЬ "БЕЛАРУС"

Прыкметнай падзеяй у культурным жыцці Магілёва стала выстава ў музеі этнаграфіі твораў вядомага маскоўскага фотажурналіста міжнароднай газеты "Совершенно секретно" Анатоля Бялясава. Пад час адкрыцця выставы прайшла аўтарская вечарына, на якой Анатоль расказаў аб сваіх творчых пошуках.

Дзіцячыя і юнацкія гады А.Бялясава прайшлі ў Магілёве. Ён быў, дарэчы, вядомым на Беларусі майстрам спорту па грэка-рымскай барацьбе. Скончыў Беларускі інстытут фізкультуры. А потым куды толькі ні закідваў яго лёс. Працаваў фотакорам у газеце "Московский комсомолец" разам з вядомым Дзмітрыем Холадавым. Пасля яго гібелі перайшоў у газету "Совершенно секретно". За гэты час пабываў у 14 гарачых кропках планеты: Чачні, Абхазіі, Турцыі, Югаславіі і інш. Сустракаўся з многімі палітычнымі лідэрамі, дзеячамі сусветнага мастацтва. Так нарадзжаліся унікальныя фотакадры Б.Ельцына, А.Лебедзя, В.Жырыноўскага, Д.Дудаева, С.Шушкевіча, Б.Клінтана, галівудскага кінаакцёра Арнольда Шварцэнэгера, амерыканскай поп-зоркі Майкла Джэксана і інш.

А.Бялясаў — таленавіты майстар партрэта. Яго камера з рэпарцёрскай дакладнасцю фіксуе розныя моманты сённяшняга жыцця: ці гэта базарныя рэкеціры і псіхіятрычнае аддзяленне Бутырскай турмы, ці чарнобыльская зона або манашкі з Магілёўскага жаночага манастыра. Калегі з расійскага часопіса "Фотография" нядаўна адзначылі яго як усюдыіснага і "праходнага" маскоўскага фотакора. Імянуюць Анатоля ў Маскве "беларус". Цудоўна, што наш зямляк стаў вядомым фотамайстрам. Шкада, што ён усё ж працуе не ў Беларусі.

Традыцыйную спонсарскую падтрымку ў правядзенні выставы аказалі магілёўскія прадпрымальнікі вядомых фірмаў СП "Белая Вежа — КОДАК", "КОКА-КОЛА Аматил Беларусь" і МП "Канкорд".

**Валянціна БОНДАРАВА.**
г. Магілёў.

## Шаноўныя чытачы!

Працягваецца падпіска на газету "***НАША СЛОВА***". Вы можаце падпісацца з кожнага наступнага месяца 1997 года ў любым паштовым аддзяленні. Сталыя падпісчыкі і чытачы "Нашага слова" заўсёды ў курсе спраў нацыянальнага адраджэння, а разам з тым яны матэрыяльна падтрымліваюць беларускамоўнае выданне, што вельмі важна для ўсіх нас, шчырых беларусаў, у сённяшніх няпростых варунках.

**Наш індэкс — 63865.**

**Кошт падпіскі: на адзін месяц — 6500, на тры — 19500 руб.**

***Рэдакцыя.***

# Даты і падзеі ў лютым

**1** — 335 гадоў таму (1662) Мікалай Пац, стараста крычаўскі і слуцкі скардзіўся ў гарадзенскі магістрат на палкоўніка чужаземных наёмных ваяроў, які перайшоў літоўскую граніцу (г. зн. дзяржаўную мяжу паміж Польскім каралеўствам і ВКЛ). Ён і ягоныя людзі дапускалі бясчынства і самаўпраўства ва ўладаннях Паца, забіралі ў сялян зерне, скаціну, піва, мёд, гарэлку.

— 280 гадоў таму (1717) пачаўся "Нямы сейм", названы так таму, што без дыскусіі прыняў дыктаваны Расіяй "Варшаўскі трактат", які змяняў колькасна вайсковую арганізацыю Рэчы Паспалітай.

**2** — 340 гадоў таму (1657) загадам цара Аляксея Міхайлавіча "и по приказу околничего и оружейничего Богдана Матвеевича Хитрово послано из Оружейного приказу с суздальцом с Петром Болотниковым в польские городы в Смоленск, в Шклов, в Могилев, в Борисов, в **Менеск**, в Вильню для пищальныя покупки и для призыву розных дел мастеров".

— 145 гадоў таму (1852) у Менску трупа В. Дуніна-Марцінкевіча паставіла першую беларускую оперу "Ідылія" ("Сялянка"). Музыку напісалі С. Манюшка і К. Крыжаноўскі, лібрэта В. Дуніна-Марцінкевіча.

— 125 гадоў таму (1872) адбылася прэм'ера аперэты "Бэата" Станіслава Манюшкі.

— 75 гадоў таму (1922) у 40-я ўгодкі Джэймса Джойса (нарадзіўся 2.ІІ.1882 г.) быў выдадзены ў Парыжы яго славуты раман "Уліс".

**3** — 380 гадоў таму (1617) жыхары Берасцейскага ваяводства пратэставалі супраць далучэння некалькіх тысячаў валокаў зямлі, спракавечнай маёмасці ВКЛ, да Каралеўства Польскага.

— 70 гадоў таму (1927) у Косаве (цяпер Івацэвіцкі раён) адбылася дэманстрацыя пратэсту супраць пераследу Беларускай Работніцка-Сялянскай Грамады. Паліцыі загадалі страляць у людзей. Некалькі чалавек было забіта і паранена.

— 70 гадоў таму (1927) пасля сямігадовых пошукаў і раскопак англійскаму археалогу Говарду Картару пашэнціла ўбачыць "аблічча" фараона Тутанхамона.

**4** — 110 гадоў з дня нараджэння (1887) Фабіяна Шантыра, грамадскага дзеяча, пісьменніка, публіцыста.

— 110 гадоў з дня нараджэння (1887) Стасіса Шымкуса, летувіскага кампазітара; апрацоўваў беларускую народную музыку да спектакляў трупы Ігната Буйніцкага; напісаў музыку да першай пастаноўкі камедыі "Паўлінка" Янкі Купалы ў 1913 годзе.

**5** — 445 гадоў таму (1652) мястэчка Капыль атрымала магдэбургскае права.

— 430 гадоў таму (1567) вялікі князь ВКЛ і кароль Польшчы Жыгімонт Аўгуст у адказ на скаргу "баяраў-шляхты, которые у кгрунте замку Ляховіцкого іменья свої мають", каб надаць ім статус шляхты Навагарадскага павета, а не Ляхавіцкага замка, загадаў ім: "... аж бы нігде інде, одно перед державцу тамошнего ляховіцкого позываліся і ў справах і потребах ваших перед ним ся суділі і справовалі,.. і на войну при нем езділі і всякое послушэнство, враду его належачое, чинілі по тому, яко і ку первым державцом тамошнім от вас то чинено бывало конечно".

— 80 гадоў таму (1917) пачаў заняткі другі курс Свіслацкай настаўніцкай семінарыі.

**6** — 120 гадоў таму (1872) на Добрушскай папярні (папяровай фабрыцы) пачалі вытворчасць паперы.

— 50 гадоў з дня нараджэння Віктара Саркісьяна, артыста балета, народнага артыста Беларусі.

**Падрыхтаваў З. С.**

*Культурна-асветніцкая штотыднёвая беларуская газета*

**Наша Слова**

*Our Word*
*Unser Wort*
*Naša Słowa*

**Падпісны індэкс 63865**

**ЗАСНАВАЛЬНІК: Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны**

Газета зарэгістраваная ў Дзяржаўным камітэце Рэспублікі Беларусь па друку. Рэгістрацыйнае пасведчанне **№ 83.**



**Адрас рэдакцыі:** 220029, г. Менск, вул. Чычэрына, 1, 3-і паверх.
**Тэлефон: 233-17-83.**

Кампутарнае забеспячэнне пры падтрымцы Беларускага аддзялення Фонду Сораса.

*(Заканчэнне. Пачатак на с. 1.)*

## "Мы свядома зрабілі свой выбар на карысць беларушчыны"

Сёння важна дапамагчы маладым не вывучыць беларускую мову — горш ці лепш яе ведаюць усе. Галоўнае — пераадолець псіхалагічны бар'ер, загаварыць па-беларуску ў іншым моўным асяроддзі, якое існуе на вуліцы, у ВНУ і шмат у каго ў сем'ях. Мы ведаем: свядомасць у значнай ступені фармуе менавіта мова. Той, хто пачынае стала, а не час ад часу, з нейкай патрэбы, гаварыць па-беларуску, пачынае і думаць па-беларуску. І толькі тады ён усвядоміць, што існаванне беларускай дзяржавы без беларускай культуры немагчымае. Толькі тады ён будзе не проста паважаць, а прадстаўляць і абараняць свой народ, яго мову і дзяржаву.

Мы хочам стварыць уласны асяродак моладзі, яднаць які будзе не толькі мова, але і асабістыя сяброўскія кантакты. Бо спрабаваць заахвоціць нашых аднагодкаў выключна моўнай праблематыкай было б бессэнсоўным — беларушчыну мы мусім не прапагандаваць, а падаваць у тым выглядзе, у якім яе гатовае прыняць новае пакаленне. Гэта азначае, што патрэбныя не толькі сустрэчы з мовазнаўцамі ці дзеячамі культуры, але і актыўны наш удзел у грамадскім жыцці, карыстанне моваю не ў мэтах прапаганды, а як сродкам чалавечага паразумення.

І яшчэ: моладзь у суполках ТБМ павінна яднаць не толькі мова, але і іншае — агульныя зацікаўленні, агульныя справы, усё тое, што заўсёды яднае маладых. Гэта дасць нам магчымасць пашырыць сваё асяроддзе за кошт прыцягнення новых сяброў, якія знойдуць у нас тое, чаго шукаюць, але ў беларускім абліччы.

У перспектыве мы бачым стварэнне новай плыні ў Таварыстве — маладзёвай, якая будзе яднаць не толькі навучэнцаў сталічных інстытутаў, але і іншых маладых рознага сацыяльнага статуса ў розных рэгіёнах краіны. Гэта патрэбна, бо за маладымі будучыня, а малая колькасць у шэрагах ТБМ азначала б у перспектыве абмежаванне і кола сяброў, і сферы ўплыву Таварыства. Мы ж, наадварот, мусім быць актыўнымі і мець вядомасць.

**— Найбольш актыўныя з маладых далучаюцца да маладзёвых фракцыяў больш актыўных арганізацыяў, палітычных, напрыклад БНФ. Чаму вы далучыліся да грамадскай, а не палітычнай арганізацыі?**

— Мы кантактуем і з тымі, хто займаецца палітыкай. Але метады дзейнасці, якімі карыстаюцца яны, не заўсёды адэкватна ўспрымаюцца грамадствам, якое, да таго ж, знаходзіцца пад уплывам урадавай прапаганды. Сёння ўдзел у палітычных акцыях небяспечны як для справы, якой займаюцца іх арганізатары, так і для іх саміх. Мала хто сёння будзе рызыкаваць магчымасцю атрымаць адукацыю дзеля таго, каб выказаць свае погляды.

Але вынікаў не меншых магчыма дасягнуць, кантактуючы з дзяржаўнымі структурамі і займаючыся культурніцкай і асветніцкай справай пад дахам Таварыства беларускай мовы.

**— У студэнцкім асяроддзі актыўна дзейнічае шмат арганізацыяў, адны з якіх набываюць уплыў, другія губляюць яго. Сярод іх — адукацыйныя, маладзёвыя, рэлігійныя, палітычныя, экалагічныя... Чым, на ваш погляд, тлумачыцца малая папулярнасць ТБМ сярод моладзі?**

— Калі б сябры ТБМ не былі нашымі выкладчыкамі і не расказалі нам пра гэтую арганізацыю, мы б ніколі не даведаліся пра яе існаванне. Гэта ж могуць сказаць і многія іншыя.

Чаму так адбываецца? Выглядае на тое, што Таварыства беларускай мовы існуе як замкнёная структура. Гэта дзіўна, але яно не ладзіць нейкіх акцыяў, якія надавалі б яму шырокую вядомасць, падае інфармацыю аб сваёй дзейнасці выключна ў сваёй газеце, якую чытаюць пераважна тыя ж сябры ТБМ. Яно не прапагандуе сябе, свае мэты і праграмы, не імкнецца далучыць да сябе новых сяброў. У тым, магчыма, і бяда тых арганізацыяў, якія самі абмяжоўваюць сферы сваёй дзейнасці і ўплыву і не маюць моцных сувязяў з грамадствам і яго падтрымкі.

ТБМ дзейнічае ў краіне, дзе прапаганда ідэяў, супярэчных мэтам Таварыства, актыўна вядзецца мностам урадавых і няўрадавых арганізацыяў. Таму сёння неабходная прапаганда не толькі беларушчыны, але і беларускіх арганізацыяў у асяроддзі моладзі. А сёння адзіная справа Таварыства, якая надае яму нейкую вядомасць, — гэта збор подпісаў у абарону беларускай вышэйшай школы.Тэму трэба гаварыць аб прапагандзе таго ж ТБМ не толькі сярод студэнцкай моладзі, а і сярод усіх слаёў насельніцтва. Бо беларушчына — гэта ўздзел не толькі выкладчыкаў, пісьменнікаў ці мастакоў, а ўсіх, хто лічыць сябе беларусамі.

Гэтая справа — інфармаванне аб дзейнасці арганізацыі і далучэнне да яе новых людзей — і будзе, магчыма, адным з галоўных кірункаў дзейнасці нашай суполкі.

**— Сябры вашай суполкі належаць да пакалення, якое вырасла ў горадзе, ва ўмовах панавання расійскай мовы і якое не мае падставаў называць беларускую "матчынай". Чаму, аднак, менавіта на яе карысць зрабілі вы свой выбар?**

— Магчыма, нам пашанцавала: у школе ў нас была цудоўная выкладчыца беларускай мовы і літаратуры — Аляксандра Навумовіч. Школа не можа навучыць мове — гэта робяць сям'я і вуліца. Але наша настаўніца прывіла нам любоў і пашану да нашай спадчыны, цікаўнасць да яе. Менавіта з гэтай павагі і цікаўнасці і вынікала ўсё тое, што робім сёння мы і нашыя паплечнікі.

Гаворачы пра нашых аднагодкаў, трэба разумець: матчынай мовай для большасці яго была расійская. Але за апошнія дзесяць гадоў вырасла пакаленне, пазбаўленае стэрэатыпаў савецкага мыслення і пачуцця адданасці вялікай радзіме, што разлеглася ад Буга да Курылаў. Гэтае пакаленне вучылася паводле іншых, чым іх бацькі, падручнікаў, чытала іншыя кнігі, мела перад сабой іншыя прыклады, жыло ў іншай краіне — Беларусі, а не СССР. Шмат хто з яго ўжо паспеў пабачыць іншыя краіны, мае жыццё ў іх за прыклад і не хоча вяртання да старога. Маладыя бачаць будучыню Беларусі як адной з новых дзяржаваў Цэнтральна-Усходняй Еўропы з моцнай і самастойнай рынкавай эканомікай і арыентаванай выключна на ўласныя інтарэсы знешняй палітыкай. Большасць з іх, маючы перад вачыма прыклад Польшчы, Чэхіі ці Украіны, разумее неабходнасць захавання нацыянальнай адметнасці дзяржавы і, нават слаба валодаючы беларускай мовай, уяўляе яе важную ролю ў справе будаўніцтва новай дзяржавы і новага грамадства.

Мы нарадзіліся і выраслі ў Беларусі і свядома зрабілі свой выбар на карысць беларушчыны.

**Распытваў У.ПАНАДА.**

*Але!* *Але!*

# ЁСЦЬ У НЯСВІЖЫ

Вось ужо цэлы год у старажытным Нясвіжы на педагагічным фронце не сціхае "бітва". На шматдзетную сям'ю Галіны і Ігара Бушмакіных ідзе ў наступ кіраўнік тамтэйшага райаддзела адукацыі Іван Дараховіч.

Што ж здарылася?

Каб зразумець гэтую гісторыю, поўную крыўдаў і слёз, трэба згадаць самы пачатак. А быў ён светлым і абнадзейваючым. Пачыналася з таго, што не без удзелу Беларускага дзіцячага фонду, які ўзначальвае пісьменнік Уладзімір Ліпскі, Міністэрства адукацыі распрацавала ідэю — стварыць мадэль дзіцячага дома новага, сямейнага тыпу. У палажэнні памянёнага міністэрства так і запісана: мэта дзіцячага дома сямейнага тыпу — рэалізацыя права кожнага дзіцяці на жыццё ды выхаванне ў сям'і, у якой пануе атмасфера любові, шчасця ды ўзаемаразумення.

А цяпер згадаем статыстыку, якая прагучала на пашыраным пасяджэнні калегіі Менскай абласной пракуратуры, што адбылася сёлета ў студзені. Дык вось: на сённяшні дзень у органах унутраных спраў Меншчыны знаходзіцца на ўліку 1476 так званых "цяжкіх" сем'яў, выяўлена амаль тысяча няшчасных дзяцей, пазбаўленых бацькоўскай апекі. Як адзначылі дасведчаныя выступоўцы, яшчэ пяць год таму гэтыя лічбы былі ўтрая меншыя.

Але вернемся да ініцыятараў стварэння першых дзіцячых дамоў сямейнага тыпу з Беларускага дзіцячага фонду. А больш канкрэтна, да Галіны Пранько, што і тады, і цяпер кіруе ў Фондзе Менскім абласным аддзяленнем. Спадарыня Пранько, якую я даўно ведаю і паважаю за чулую душу і дзелавую хватку, знайшла грошы і ў гады гарбачоўскай перабудовы здолела зрабіць выдатную справу — арганізаваць узвядзенне ў Нясвіжы за сродкі Фонду двухпавярховага катэджа на вуліцы Маладзёжнай. Спецыяльна і адрасна для сям'і Галіны і Ігара Бушмакіных. На той час маючы ўласных дачок Жэню і Алену, Бушмакіны ўзялі гадаваць і выхоўваць яшчэ сямёра дзетак з сіроцкіх установаў — малечу, якая, не паспеўшы нават асэнсаваць ўласнае з'яўленне на белы свет, ужо атрымала глыбокую псіхічную траўму ад родных па крыві татак і мамак.

Жытло для сям'і-дзіцячага дома новага тыпу неўзабаве было гатова, і Бушмакіны дружна ўзяліся за самую высакародную працу — з даволі сапсаванага жорсткасцю дарослых чалавечага матэрыялу зрабіць добрых людзей. І трэба адзначыць, гэта ў іх атрымлівалася добра. Як мне паведаміў намеснік начальніка Менскай абласной управы адукацыі Георгій Ніканові, бушмакінская сям'я — лепшы дзіцячы дом сямейнага тыпу на Меншчыне. Галіна Леанідаўна ды Ігар Вітальевіч — прыроджаныя педагогі. Яны валодаюць сакрэтам псіхалагічнай рэабілітацыі пакрыўджаных сіроцтвам дзетак. Пасля чаго гэтыя малыя з дапамогай "прыёмных" таты і мамы пачынаюць радавацца жыццю, знаходзіць смак у вучобе ды пасільнай фізічнай працы дома, вызначаць свае схільнасці, таленты, шукаць сябе ў будучых прафесіях.

Дзве родныя дачкі (а іх таксама трэба было выхоўваць і гадаваць) Яўгенія ды Алёна — цяпер студэнткі. Першая вучыцца ў кансерваторыі, другая — у Мірскай мастакоўскай вучэльні. Відаць, у музыцы вызначаць сябе і "чужая" Святлана, якая параўнаўча нядаўна паспяхова выканала конкурсную праграму на фестывалі юных скрыпачоў у Беларускай акадэміі музыкі — яна прывезла дамоў дыплом Рэспубліканскага ліцэя пры згаданай акадэміі. Яшчэ двое дзяцей вучацца ў гарадской беларускай гімназіі...

Тут варта заўважыць, што расійцы па нацыянальнасці Ігар Вітальевіч і Галіна Леанідаўна стараюцца выхаваць дзяцей патрыётамі свайго старажытнага Нясвіжа, патрыётамі Беларусі. У размове са мной бацька і маці вялікага сямейства падкрэслілі, што іхнія дзеці добра валодаюць беларускай і расійскай мовамі, ведаюць гісторыю Нясвіжа і гісторыю Беларусі, якой, дарэчы, вельмі цікавіцца і сам спадар Ігар. Свой абавязак ён бачыць у спрыянні адраджэнню беларускай культуры, у якую ўжо прафесійна ўваходзяць яго выхаванцы. І ён сам, і Галіна Леанідаўна чытаюць на беларускай мове гістарычную ды мастацкую літаратуру, вучацца кантактаваць з дзецьмі па-беларуску. Як грамадзяне Беларусі яны зычаць краіне незалежнасці, суверэннасці, не выракаючыся і сваёй гістарычнай радзімы.

Здавалася б, за гонар бы лічыць дзяржаўным чыноўнікам ствараць дзеля сям'і Бушмакіных умовы, каб тут і надалей выхоўваліся працавітыя ды годныя грамадзяне краіны, сапраўдныя сыны і дочкі Беларусі. Дык не.

Загадчык Нясвіжскага райаддзела адукацыі Іван Дараховіч да гнязда Галіны ды Ігара Бушмакіных ставіцца так: гэта ніякая не сям'я, а "дзяржаўная ўстанова". Такая, напрыклад, як дзіцячы садок. І наогул ідэя дзіцячага дома сямейнага тыпу — надуманая, а палажэнне Міндукацыі сырое, недапрацаванае.

Я не мог пакінуць Нясвіж, не падзяліўшыся ўражаннямі ад бачанага ды пачутага, з намеснікам старшыні райвыканкама Галінай Прахорчык — куратарам Івана Дараховіча.

Пераказаў ёй крыўды бацькоў Бушмакіных.

Крыўда першая. Загадчык рай-

*Навіны культуры*

# ЁСЦЬ ТРЫ ТАМЫ АТЛАСА. І ЯКІЯ!

Мы прывыклі, што слова "атлас" звычайна датычыцца зборнікаў геаграфічных, гістарычных і іншых карт, а таксама табліц, малюнкаў, чарцяжоў і схем. Некаторым даводзілася карыстацца заалагічным атласам. А лексічны? З'явілася і такая магчымасць. Упершыню Інстытутам мовазнаўства імя Я. Коласа Акадэміі навук Беларусі ажыццёўленае выданне лексічнага атласа беларускіх народных гаворак. Пабачылі свет ужо тры тамы. І якія! Выданне сапраўды фундаментальнае.

Гаворачы аб гэтых трох тамах (а яны тэматычныя), нельга не заўважыць, што яны — своеасаблівы працяг такіх грунтоўных распрацовак, як "Дыялектычны атлас беларускай мовы" і "Лінгвістычная геаграфія і групоўка беларускіх гаворак". Тым не менш, выданне унікальнае. Першы том, напрыклад, аб'ядноўвае ўсё, што датычыцца расліннага і жывёльнага свету. Графічнымі сродкамі на картах абазначаныя адны і тыя ж словы ў іх тэрытарыяльнай дыферэнцыяцыі. З'яўляецца магчымасць пазнаёміцца з разнастайнай лексікай, якая адлюстроўвае фанетычную сістэму, словаўтварэнні і семантыку таго або іншага паняцця. Паўднёва-заходні, паўночна-ўсходні дыялекты беларускай мовы, палеская група гаворак — усё гэта характэрныя грані яе багацця. Вось прыклад, на якім, напэўна, будзе цікава прасачыць, як у розных раёнах нашай Беларусі гучыць слова "бусел": *бусял, бусёл, бусько, буська, бусэнь, бусён, бусёк, бацян, буцян, боцян, аіст, веселец, весялок...*

А вось дзеясловы са значэннем "клекатаць" (пра бусла): *ляпае дзюбкай, ляпыць, ляскае, ляскыць, стукае, трашчыць, клекатае, кляхоча, клекча, кракоча, пляскоча, шчакоча, клыкоча, клэкеча, клякае, гэргэча, клекае, клэкочэ, курлыкае і нават — сакоча, шчабеча, свішча.*

Аднак ужо зараз відавочна, што навуковае і агульнакультурнае значэнне атласа выходзіць за межы мовазнаўства. Матэрыялы, сабраныя ў ім, безумоўна, стануць навуковай базай для даследнікаў сумежных навук — гісторыкаў, археолагаў, этнографаў. Чатырнаццаць гадоў працягвалася карпатлівая праца па складанні гэтага фундаментальнага атласа. Былі накіраваны экспедыцыі з удзелам супрацоўнікаў сектара дыялекталогіі Інстытута мовазнаўства імя Я. Коласа АН Беларусі ў Берасцейскую, Магілёўскую, Гомельскую вобласці. Да гэтага клопату далучыліся члены кафедраў мовы і студэнты педагагічных інстытутаў Берасцейскага, Магілёўскага, Гарадзенскага, Мазырскага і Менскага, а таксама — Гомельскага універсітэта — дружна працаваў увесь філалагічны актыў Беларусі.

Як мы ўжо адзначалі, першы том прысвечаны лексіцы расліннага і жывёльнага свету. Ён змяшчае 368 лінгвістычных картаў, на якіх адлюстроўваецца лексіка дзесяці тэматычных груп: свойскія жывёлы; дзікія жывёлы; звяры, грызуны; свойскія і дзікія птушкі; лес; пладовыя дрэвы; ягады; кветкі; травы; грыбы; пчалярства; рыбы і рыбалоўства; гады, ніжэйшыя жывёлы; насякомыя.

У другім томе пададзена лексіка 15 тэматычных груп, звязаных з сельскай гаспадаркай, транспартам, атмасферай і рэльефам мясцовасці. Гэта і нябесныя свяціла, і надвор'е, і паверхня зямлі, вадаёмы, шляхі зносін, перамяшчэнне ў прасторы, глеба, сяўба, сенакос, прылады працы і г. д.

У трэцім — лексіка 10-ці тэм, згрупаваных вакол агульнай — чалавек. Ён уключае 293 лінгвістычныя карты. Яны прысвечаныя асобе беларуса, яго побыту і занятках. Цікава прааналізаваць словы, якія характарызуюць знешні выгляд, характар, назвы хвароб, прадметаў і паняццяў асабістай гігіены. Тут пададзеная і тэрміналогія роднасці, сваяцтва, моўных зносін, гандлю, абраднасці і г. д. Асабліва цікава прасачыць адносіны паміж тоеснымі па значэнні назвамі. Гэта не толькі адносіны словаўтваральныя, але і фанетычныя, акцэнталагічныя. Усім, хто паглыблена цікавіцца мовазнаўствам, выпадае цудоўная магчымасць раскрыцця семантычнай неадназначнасці слоў.

А 293 лінгвістычныя карты! Гэта не толькі сапраўднае багацце для мовазнаўцаў, этнографаў, фалькларыстаў, гісторыкаў, краязнаўцаў, але яны даюць і кожнаму з нас магчымасць карыстацца імі як выдатным слоўнікам сінонімаў беларускай мовы. Вось, напрыклад, такое ўласцівае сённяшняй газетнай лексіцы слова "памяркоўны". Яно азначае, што чалавек, які характарызуецца ім, з'яўляецца зычлівым, не скупым. А вось сінонімы: *пакладлівы, пакладзісты, добры, дабрадушны, дабрахвоцы, дабрахочы, дабрачы, дабраслівы, міласэрны, падзельчывы, падзелісты, а яшчэ — падатлівы, прасты, сходлівы, прымірлівы, спагадлівы, спагадны, тараваты, харошы, хлебасолівы, шчодры, шчыры.*

Пагодзімся, гэта значна пашырае наша ўяўленне аб памяркоўнасці. Тое ж самае можна сказаць і аб іншых словах, што значацца ў лінгвістычных картах.

Чацвёрты том будзе прысвечаны 11-ці лексічным тэмам побыту вясковых беларусаў, а пяты — змесціць карты па колерах, семантыцы, словаўтварэнні. Ужо нават такі беглы пералік пераконвае, што гэта сапраўды энцыклапедычнае, унікальнае выданне, якое ажыццяўляецца аўтарскім калектывам пад рэдакцыяй Ю. Ф. Мацкевіч. Выданне 1-га і 2-га тамоў дапамагаў рабіць і М. В. Бірыла.

Зрэшты, пішу гэтыя радкі не толькі для таго, каб яшчэ раз звярнуць чытацкую ўвагу на лексічны атлас беларускіх народных гаворак. Тыраж яго ўсяго 1550 асобнікаў — больш чым сціплы, і нават пры кошце 125 тысяч рублёў за том. Атлас разыдзецца. Мае ж кароткія нататкі выкліканыя перш за ўсё тым, што лічу асноўных складальнікаў гэтага унікальнага для Беларусі выдання вартымі вылучэння на Дзяржаўную прэмію. Нават калі яна ў галіне мовазнаўства і не прадугледжаная, — трэба зрабіць выключэнне.

**Ізяслаў КАТЛЯРОЎ.**
г. Светлагорск.

*Гіт-ліставанне*

# Створым фан-клуб беларускай музыкі!

У апошні час беларуская музыка амаль цалкам ігнаруецца на Беларускім радыё і тэлебачанні. Беларускія музыканты ў сябе на радзіме не маюць магчымасці нават выпусціць звычайнай касеты, не гаворачы ўжо аб запісе кліпа або кампакт-дыска. Гэта прыводзіць да таго, што беларускія музыкі едуць шукаць шчасця за межы Беларусі. Так усім вядомая "Крама", пагастраляваўшы па Расіі, цяпер падалася ў Польшчу. Дзеля таго, каб звярнуць увагу уладаў, ды й усяго грамадства на праблемы беларускай музыкі і беларускага шоў-бізнеса, група моладзі з розных куткоў Беларусі вырашыла стварыць нешта падобнае на "Фан-клуб беларускай музыкі".

Першапачатковымі сваімі мэтамі фан-клуб ставіць:

1. Збор адрасоў аматараў беларускай музыкі, што дапаможа ўдзельнікам клуба знаходзіць аднадумцаў у пэўным горадзе, вобласці, раёне.
2. Распаўсюджванне запісаў беларускіх музыкаў, інфармаванне пра канцэрты, новыя запісы і г.д.
3. Правядзенне беларускіх дыскатэк, канцэртаў гуртоў, бардаў.

Фан-клуб беларускай музыкі будзе дзяліцца на рок-клуб, клуб аўтарскай песні, клуб аматараў фальклору і г.д. На жаль, моладзь Беларусі, якая захапляецца беларускай музыкай, знаходзіцца ў меншасці. Але мы раз'яднаныя, таму зараз мы павінны шукаць аднадумцаў, яднацца ў клубы, заводзіць сяброўства. Адным словам, заяўляць пра сябе. Мы павінны паказаць, што моладзь Беларусі слухае не толькі слёзкі Танькі Буланавай, але і ведае гісторыю рок-музыкі Беларусі, шануе родную мову.

Калі чытачы "Нашага слова" маюць нейкія прапановы ці жадаюць наладзіць з намі кантакт або уступіць у фан-клуб, тады пішыце: **220108, Менск, а.с. 261 альбо тэлефануйце: 49-08-88, Віталь.**

**Вітаўт СУПРАНОВІЧ.**

*Але!*

# СЯМ'Я...




аддзела адукацыі перашкаджае Галіне Леанідаўне ды Ігару Вітальевічу пад рознымі надуманымі прычынамі займацца іхняй прафесійнай справай, якой Бушмакіны прысвяцілі сваё жыццё: забараніў узяць у сям'ю новых дзетак. Маўляў, у іхнім катэджы жыллёвая плошча складае 93,1 кв. м. на 11 чалавек. Але чамусьці не ўлічана наступнае: дочкі Бушмакіных ужо не жывуць дома, а знаходзяцца: старэйшая — у Менску, малодшая — у Міры на Гарадзеншчыне, што ў шасці прасторных пакоях ёсць дзе паставіць ложак, а то і два, не ўлічыў, што і ўзрост спадароў Бушмакіных (яму — 43, а ёй — 38 гадоў) дазваляе падняць новых выхаванцаў.

Крыўда другая. Іван Дараховіч перашкаджае нармальнаму жыццю сям'і сваімі праверкамі, якіх у 1996 годзе было безліч. Пры гэтым наведванні правяраючых адбываюцца знянацку. Спадар Дараховіч лічыць: паколькі гэта не сям'я, а дзіцячая дзяржустанова, то і правяраючых, і праверак тут павінна быць не меней, чымся на заводзе ці ў калгасе. Бо, па-першае, з бюджэту на кожнага з сям'і бушмакінскіх выхаванцаў штомесяц ідзе 800 тысяч рублёў. Па-другое, 600 тысяч атрымлівае як выхавацелька Г. Бушмакіна (поўная стаўка) і яшчэ выхавацель І. Бушмакін (0,5 стаўкі) — 300 тысяч рублёў. Па-трэцяе, ва ўстанове ёсць матэрыяльныя каштоўнасці — мэбля, іншы інвентар, дзіцячыя цацкі, вопратка, абутак ды інш. Трэба, каб апекуны рабілі штомесячную справаздачу аб скарыстанні сродкаў і ўтрыманні маткаштоўнасцяў. Бушмакіны, у якіх праверальшчыкі так, дарэчы, і не знайшлі нейкага крыміналу, уласна, не супраць справаздачнасці. Але ж не такой частай і бесцырымоннай. Не ў прысутнасці ж дзяцей, якіх чужыя людзі, што ўварваліся без дазволу ў дом, пазбаўляюць нармальнага жыцця.

Крыўда трэцяя. Іван Дараховіч ад Бушмакіных патрабуе не толькі штомесячнай фінматсправаздачы, але і захавання працоўнай дысцыпліны на рабочым месцы ў ягоным, чыноўніцкім, разуменні такой дысцыпліны ў прымяненні да гэтай дзіцячай дзяржаўнай установы. Адносна любой адлучкі з катэджа, паводле Галіны Леанідаўны, трэба званіць у райаддзел адукацыі. Ужо не кажучы пра паездку ў Менск, Мір ці яшчэ куды далей. Так, нядаўна спадарыня Бушмакіна атрымала вымову за... прагулы. Бо ездзіла ў Германію, каб забраць адтуль дачку Алёну: дактары з г. Любан рабілі дзяўчыне складаную аперацыю, за якую не браліся айчынныя хірургі. Сп. Дараховіч не адпусціў Галіну Леанідаўну нават за яе ўласны кошт.

Размова ў кабінеце Галіны Прахорчык праходзіла ў прысутнасці педагога, бацькі траіх дзяцей Алеся Язвінскага, старшыні Нясвіжскай рады БНФ "Адраджэньне". Прызнаючы чыноўніцкі падыход да справы свайго падначаленага, Галіна Уладзіміраўна, тым не меней, апраўдвала і спагнанне сп. Бушмакінай, і праверкі. Хаця прызнала: між Бушмакінымі і райаддзелам адукацыі павінна быць пісьмовае пагадненне, якое рэгламентавала б узаемаадносіны бакоў.

— Зразумейце, мы ж дабра хочам дзецям. Напрыклад, прапанавалі Бушмакіным ашчаджаць нейкія грошы, каб потым, калі дзецям споўніцца васемнаццаць гадоў, даць на пачатак самастойнага жыцця. Але Галіна Леанідаўна ды Ігар Вітальевіч адмовіліся гэта рабіць, — паведаміла нам спадарыня Прахорчык.

— Вы лічыце, што каб утрымліваць нармальна дзіця, цяперашніх грошай дастаткова? — спытаўся Алесь Язвінскі.

Як потым мне сказаў з гэтай нагоды адзін з кіраўнікоў абласной управы адукацыі Георгій Ніканавіч, сапраўды, з 800 тысяч рублёў цяжкавата нешта з'эканоміць. Ён прывёў такія лічбы: на ўтрыманне дзіцяці ў "звычайным" Жодзінскім дзэтдоме дзяржава штомесяц выдаткоўвае 2 мільёны 600 тысяч рублёў, а ў Салігорскім — 3 мільёны 100 тысяч. У Рэспубліцы Беларусь налічваецца 20 такіх вось дзіцячых дамоў сямейнага тыпу і толькі ў Нясвіжы — скандал замест зычлівасці ды імкнення стварыць нармальныя ўмовы для існавання гэтай сям'і.

— Менавіта — сям'і, — падкрэсліў спадар Ніканавіч, — калі выхаванцы сваіх апекуноў называюць татам і мамай. У Нясвіжскі райвыканкам наша ўправа накіравала ліст з меркаваннем адносна гэтай сітуацыі. Неўзабаве на калегіі ўправы абавязкова заслухаем па стылі і метадах працы Івана Дараховіча. Мяркуем, больш увагі засяродзіць на дзіцячай злачыннасці ў раёне, на праблемах "цяжкіх" падлеткаў і "цяжкіх" сем'яў.

Чамусьці згадваецца Уладзімір Маякоўскі з ягоным "Я волком бы выгрыз бюрократизм…" і нават Уладзімір Ульянаў-Ленін, які аднойчы пра савецкіх чыноўнікаў-бюракратаў ды іхнія метады ўзаемін з наведвальнікамі выказаўся, прыкладна, так: маўляў, па форме нібыта правільна, а па сутнасці — здзек з чалавека. Практычна ідзе несвядомае разбурэнне сям'і, якой і так цяжка, ячэйкі беларускага грамадства, сапраўды здзек з сірот, якім раптам усміхнулася доля зычлівымі ўсмешкамі таты Ігара і мамы Галі. Гэта ж іхнімі клопатамі, іхнімі душамі і сэрцамі ствараецца гэткі далікатны мікраклімат, у якім дзеці адграваюцца ад "свінцовых мярзотнасцяў" нашага чалавеканенавісніцкага часу.

**Алесь МІКАЛАЙЧАНКА,**
**сябра Беларускага Хельсінкскага камітэта.**

# Крымінал-дайджэст

## Расіянкі зноў пацвердзілі славу адважных і рашучых

У расійскіх сродках масавай інфармацыі прайшло паведамленне аб узброеным нападзе на магазін у Волагдзе. Выпадак па цяперашнім часе для Расіі шэраговы (такое адбываецца паўсюдна), каб не наступствы. А здарылася тое, што калі мужчына з пісталетам перад самым закрыццём магазіна запатрабаваў выручку, касірка Нэля Галібіна вокамгненна схапіла драўляны метр і ляснула ім грабежніка па галаве. Той ад нечаканасці ды каб запалохаць касірку, стрэліў у столь, аднак атрымаўся адваротны эфект: ачомалася ад ступару прадаўшчыца Алена Наскова і таксама кінулася на дапамогу. Дзякаваць Богу, грабежнік вырашыў за лепшае не страляць у абаронцаў магазіна, бо за гэта яму б "свяціў" вельмі доўгі тэрмін зняволення, і выскачыў на вуліцу. Цяпер яго шукае міліцыя.

## Зноў п'яніцы на першым месцы

Упраўленне ўнутраных спраў Менгарвыканкама наладзіла чарговую сустрэчу з журналістамі, каб праінфармаваць грамадскасць аб рабоце сталічнай міліцыі ў цяперашніх складаных умовах. На пытанні прадстаўнікоў прэсы адказваў генерал-маёр Барыс Тарлецкі. У прыватнасці, ён звярнуў асаблівую ўвагу на тое, што прыкметна павялічылася колькасць крымінальных злачынстваў, зробленых людзьмі ў п'яным стане. Кожнае чацвёртае злачынства ўчыняецца п'янымі. А ўсяго ў Менску ў мінулым годзе зарэгістравана 22570 злачынстваў.

Зноў вяртаючыся да тэмы ўзрослай колькасці алкаголікаў, якія часта ўчыняюць не толькі крымінальныя дзеянні, але і пажары, генерал-маёр міліцыі Барыс Тарлецкі выказаў крайнюю неабходнасць мэтанакіравана весці барацьбу з п'янствам не толькі сіламі міліцыі, а і шляхам падключэння шырокай грамадскасці. Наспела неабходнасць павялічыць колькасць лячэбна-працоўных прафілакторыяў для алкаголікаў. Аналагічных установаў для жанчын няма, аказваецца, увогуле, у той час як з 25 тысяч толькі зарэгістраваных алкаголікаў 3 тысячы складаюць жанчыны.

## За забойствы і грабяжы — расстрэл

Судовая калегія па крымінальных справах Віцебскага абласнога суда завяршыла разгляд справы Алега Н. з вёскі Бардзюкі Верхнядзвінскага раёна. П'янкі і імкненне пажывіцца за чужы кошт прывялі гэтага чалавека ў ВПК строгага рэжыму. Але і выпушчаны са зняволення мужчына ў росквіце сіл не стаў шукаць работу, а ўзяўся за ранейшае. На п'янкі патрэбныя былі грошы, і іх Алег Н. вырашыў адбіраць у слабасільных сельскіх пенсіянераў. А паколькі людзі спрабавалі супраціўляцца нахабнаму грабяжу, Алег Н. хутка стаў ахвяр забіваць. Яго змагло спыніць толькі ўзброенае супраціўленне чарговай ахвяры. Атрымаўшы ў плячо жменю свінцовага шроту з паляўнічага ружжа, грабежнік кінуўся ўцякаць, а праз некаторы час быў арыштаваны. Алег Н. быў прызнаны вінаватым ва ўчыненні грабежніцкага нападу з мэтай авалодання маёмасцю, спалучанага з наўмыснымі забойствамі. Судовая калегія прыгаварыла яго да вышэйшай меры пакарання — расстрэлу.

**Па матэрыялах прэс-цэнтра МУС Беларусі.**

Згадкі

# РАСЦІСЛАЎ ЛАПІЦКІ: Жыццё на алтар вольнай Беларусі



Трапіўшы пасля вясковай пачатковай школы ў Мядзельскую дзесяцігодку, я даведаўся ад старэйшых вучняў пра толькі што выкрытае беларускае маладзёжнае падполле, пра арышты, суды. Як паданне, перадавалася гісторыя пра безназоўнага хлопца з ляснога хутара, які, адстрэльваючыся ад насядаючых энкавэдзістаў, абгарнуўся ў бел-чырвона-белы сцяг і апошнюю кулю паслаў сабе ў скроню. І ва ўсіх гэтых сказаных шэптам на перапынках паміж урокамі аповядах успамінаўся кіраўнік арганізацыі мядзельскіх школьнікаў Расціслаў Лапіцкі. Пра яго між вучнямі і дарослымі Мядзела, Навасёлак, Мікасецка гаварылася, як аб надзвычай здольным і мужным юнаку — цудоўна маляваў, іграў на некалькіх музычных інструментах, лячыў людзей сканструяванай самім электрамашынай, ездзіў на драўляным ровары з двух калаўротаў. А бедны быў такі, што калі гаспадыня цыравала вопратку, сядзеў, загарнуўшыся ў посцілку, — не было змены. З вуха ў вуха перадавалася выслоўе патрыёта: "Калі ведаеш, што ў гэтай хаце зачуе вораг Беларусі — спалі хату, калі хлеб з гэтай нівы пойдзе ворагу Беларусі — знішчы яе".

Стаўшы сталым чалавекам, я пачаў збіраць звесткі пра Расціслава Лапіцкага. Гэта было мне асабліва важна, бо менавіта яго вобраз найперш фармаваў маю нацыянальную свядомасць у школьныя гады. Гэта па яго прыкладу я, шасцікласнік, спрабаваў пісаць друкаванымі літарамі на лістках з вучнёўскага сшытка нешта накшталт: "Акупанты — прэч з Беларусі!" і раскідаць такія імправізаваныя ўлёткі па дарозе ў школу...

Па драбніцы збіраліся факты. Шмат далі росшукі ў Смаргоні, дзе ў канцы 40-х было даволі значнае школьнае падполле. Асабліва змястоўнымі аказаліся ўспаміны старэйшай сястры Расціслава Вольгі Аляксандраўны Лапіцкай, якая зараз жыве ў Менску. І ўрэшце выявілася, што ў колішніх вучнёўскіх размовах перапляліся звесткі пра тры падполлі — Саюз беларускіх патрыётаў, што дзейнічаў пасляваенным часам у Пастаўскай і Глыбоцкай педвучэльнях, і арганізацыі мядзельскіх і смаргонскіх школьнікаў. Высветлілася таксама, што і Лапіцкіх было двое — акрамя Расціслава, быў яго старэйшы брат Алег (нарадзіўся ў 1922 г., загінуў у Казахстане ў 1955 г.), таксама актыўны ўдзельнік беларускага патрыятычнага руху.

Расціслаў нарадзіўся 1 верасня 1928 года ў Касуце Вілейскага раёна ў сям'і мясцовага святара Аляксандра Лапіцкага, які паходзіў са старадаўняга шляхецкага роду Магілёўшчыны — Шарэпаў-Лапіцкіх. Маці ж малога, Анастасія, была дачкой смаргонскага рамесніка Жабінскага. Сама Касута была шырока і здаўна вядомая царквой і тым, што, па некаторых звестках, тут нарадзіўся адзін з гетманаў украінскага казацтва Орлік.

У час вайны сям'я Лапіцкіх, ад якой да гэтага ўжо адсыпаліся старэйшыя дзеці, апынулася ў Кабыльніку на Мядзельшчыне. Германская акупацыя, блакадныя дні, блуканні па навакольных лясах у пошуку ратунку ад карнікаў пакінулі глыбокі след у свядомасці хлопца, якому толькі мінуў першы дзесятак.

У канцы вайны старэйшы брат Расціслава Алег вучыўся ў Вільні ў духоўнай семінарыі, якая месцілася ў адным будынку з Беларускай гімназіяй. Сярод семінарыстаў і асабліва гімназістаў сфармавалася антыбальшавіцкая арганізацыя. Пачалі распаўсюджваць улёткі. Некаторыя трапілі ў Кабыльнік, дзе іх памнажаў на пішучай машынцы Расціслаў. Арганізацыя праіснавала нядоўга — была выкрытая, пачаліся вобыскі і арышты. Ператрус быў і ў Лапіцкіх у Кабыльніку. Знайшлі і машынку, і частку ўлётак. За гэта 15-гадовага юнака зняволілі, а затым перавезлі ў Менск, у вядомую "Амерыканку". У гэтай вязніцы ўжо знаходзіўся і Алег.

У канцы 1944 года над удзельнікамі віленскага беларускага падполля адбыўся суд. Алегу далі 20 гадоў канцлагераў. Атрымаў сваю "тройку" і Расціслаў. Аднак восенню наступнага года Расціслаў, як непаўналетні, быў зволены з гомельскай вязніцы, як піша ва ўспамінах сястра, "пазелянелы ад галадоўкі і з дасведчаннем бальшавіцкага універсітэта". Ён расказваў, што следчы на допытах аднойчы сказаў: "Слухай, ты вельмі разумны чалавек, але для такіх, як ты, могуць быць толькі два шляхі: або ты будзеш вялікім чалавекам, або цябе павесяць!"

Вярнуўшыся ў Кабыльнік, Расціслаў пайшоў вучыцца ў 7-ы клас. Але выпрабаванні працягваліся. Зімой памёр бацька, пакінуўшы сям'ю амаль без сродкаў да існавання — у кішэні нябожчыка застаўся толькі адзін савецкі рубель. А затым у Лапіцкіх адабралі і дамок, падараваны жонкай лесніка. У ім пасялілася мясцовая ўлада. Апынуўшыся сярод зімы пад голым небам, Расціслаў з маткай перабіраецца ў Мікасецк за пяць кіламетраў усходней Мядзела. Сюды яго запрасілі дзякам у Мікасецкую царкву. Асірацелая сям'я тулілася то ў царкоўным дамку, то па суседзях, трымаючыся на малацэ ад кароўкі — адзінага скарбу, што ім застаўся. З Мікасецка ж Расціслаў пачаў хадзіць у Мядзельскую школу.

Некаторыя настаўнікі і першыя камсамольцы спрабавалі наладзіць цкаванне юнака за ягоную службу ў царкве, нават хацелі выключыць са школы. Але знайшоў сярод вучняў Расціслаў і аднадумцаў, што бачылі і не прымалі сутнасць новай улады на Беларусі. Утварыўся гурток школьнікаў, які спрабаваў арганізаваць хоць нейкі супраціў, пашырыць свае перакананні сярод аднагодкаў. Акрамя Лапіцкага, актыўнейшымі ў гуртку былі Факунда Несцяровіч з Юшкавіч, Юзік Качарга з Качарог.

Восенню 1949 года, ратуючыся ад голаду і безнадзеі, Расціслаў з маткаю, ведучы на аборцы кароўку, пайшлі ў Смаргонь за 80 км. Там заставаліся матчыны браты. Думалася, каля родных будзе нейкая палёгка.

У Смаргоні Расціслаў пайшоў у дзесяты клас мясцовай школы. Юнак і тут адразу ж пачаў шукаць сяброў, каму быў неабыякавы лёс Бацькаўшчыны. Разгарнулася агітацыя — на школьных перапынках, вечарынах, у клубе, дзе Расціслаў падзарабляў, іграючы на піяніна. Набралася каля паўтара дзесятка падпольшчыкаў. Лапіцкі, рослы, прыгожы, з вострым розумам і палкім характарам, быў несумненным лідэрам. У арганізацыю ўваходзіла пераважна моладзь са Смаргоні і навакольных вёсак і мястэчак — Ашукоўская Часлава, Блізнюк Восіп, Іваноўскі, Лапыцька Зося, Пашкевіч, Сташкевіч Эдуард, Хацілоўскі Тадэуш, Часлаў і Леакадзія Цыбоўскія, бацька і сын Чарняўскія, Тамара і Тацяна Юшкевіч. Былі і іншыя, прозвішчаў якіх я пакуль не выявіў.

Як і ў Віленскай Беларускай гімназіі — пачалі з улётак. З раённага дома культуры Расціслаў ноччу вынес пішучую машынку і запас капірак. Схавалі набытак у вёсачцы непадалёку Вяллі і друкавалі там у лазні антыкамуністычныя праксламацыі, якія канчаліся заклікам: "Смерць Сталіну!". Паперы для друку патрабавалася шмат. Яе куплялі па чарзе ў краме. І хутка на агароджах, слупах, сценах дамоў і нават на будынках райкама партыі і міліцыі забялелі лісткі з крамольнымі словамі. Як сведчыць адна з колішніх арганізатарак смаргонскага камсамола: "Они засыпали город листовками!"

Закруціліся шпегі, забегалі райкамаўцы, у горадзе з'явілася шмат энкавэдыстаў. Пачаліся сачэнні, росшукі, начныя засады, арышты і допыты.

Высачыць альбо вылічыць падпольшчыкаў не было цяжка. Зусім маладыя, сярод іх былі нават падлеткі, яны не трымаліся асаблівай канспірацыі і не хавалі перакананняў. У школе шмат хто ведаў пра існаванне арганізацыі. Ды і сам Расціслаў на ўроках пастаянна ўступаў у палітычныя спрэчкі з некаторымі настаўнікамі, задзіраўся з камсамольцамі. Аднойчы адмовіўся пісаць сачыненне па раману Фадзеева "Маладая гвардыя", заявіўшы, што ў іх маецца свая "Маладая гвардыя", толькі яна змагаецца за Беларусь.

У канцы 1949 года непадалёку ад школы Расціслаў быў арыштаваны. Тыдзень доўжыліся допыты: "Дзе машынка? Хто друкаваў улёткі?" Не дамогшыся прызнання, юнака часова выпусцілі, не спускаючы з яго, аднак, вока.

Тайная нарада падпольшчыкаў настойліва раіла Лапіцкаму ўцёкі са Смаргоні. Ды і ён сам прысніў пад сваім ложкам лужыну крыві. Але куды падацца? Вырашыў — на Мядзельшчыну. Апошнім яго каля чыгуначнай станцыі ў Смаргоні бачыў Тадэуш Хацілоўскі. Святлеў у вечаровай цемені першы снег. Расціслаў быў у асеннім паліто.

— Чаму даўно не відаць?

— Я ж сядзеў...

— За гэтыя ўлёткі?

— Мая работа. Але нікому ні слова...

— Куды ідзеш?

— Ад'язджаю адсюль.

Гэтая сустрэча абыдзецца праз некалькі месяцаў Хацілоўскаму — "недоносительство" — разам з іншымі артыкуламі ў 75 гадоў зняволення. Выбралі найбольшы з чатырох — 25!

Спрабаваў Лапіцкі прытуліцца ў Мікасецку, затым у Несцяровічаў у Юшкавічах. Нарэшце тайна перабраўся да знаёмых у Кабыльнік. Усюды ўцекача баяліся доўга хаваць, бо людзьмі апанаваў страх — мядзельскіх падпольшчыкаў ужо выдаў здраднік, і чуткі пра арышты шырока разышліся па раёне. У Кабыльніку прастуджаны і хворы Расціслаў быў паўторна арыштаваны...

А недзе гэтым часам у Смаргоні была зроблена засада ў хаце Цыбоўскіх, дзе затрымоўвалі ўсіх, хто ў яе трапляў, нават выпадковых сялян, што прыязджалі на кірмаш. Схапілі першых падпольшчыкаў. Затым ланцужок следства пацягнуўся да іншых... Катавалі хлопцаў і дзяўчат на допытах неміласэрна. Хто вярнуўся са зняволення, сведчыў блізкім, што іголкі пад пазногці было не самым страшным...

15 чэрвеня 1950 г. у Маладзечне адбыўся суд над патрыётамі — у большасці вучнямі 7 — 10-х класаў Смаргонскай школы, вучнем Мядзельскай школы Ю. Качаргой і на той час ужо навучэнцам Менскага палітэхнікума Ф. Несцяровічам. Як успамінае Вольга Лапіцкая, у дзень суда над горадам разбушавалася страшэнная навальніца, неба грымела перунамі і маланкамі. Сведчанні Расціслава Лапіцкага на судзе былі як прамовы-абвінавачанні рэжыму. Ён гаварыў, як бальшавікі выгналі яго сям'ю з хаты зімой у чыстае поле, як зневажаюць за беларускасць, за веру ў Бога, як закрываюць цэрквы і касцёлы, як здзекуецца з людзей начальства: прыгнятаючы непамернымі падаткамі, ажно тыя вешаюцца. Браў, каб выратаваць сяброў, усю віну на сябе.

Пятнаццацігадовай Таццяне Юшкевіч прысудзілі 19 гадоў, усім астатнім — па 25. Лапіцкага ж і Несцяровіча, як кіраўнікоў Мядзельскай і Смаргонскай арганізацый, прыгаварылі да пакарання смерцю. Расціслаў адмовіўся прасіць памілавання. Ён з абурэннем заявіў: "Рабіце сваю чорную справу, а мне вашае ласкі непатрэбна — можаце мяне забіваць. А я, колькі буду жыць, столькі буду вас усіх ненавідзець і буду вам шкодзіць праз увесь час!"

"Як зорка на небе, з'явіўся Расціслаў сярод нас, — піша Вольга Лапіцкая, — згарэў у паветры і знік без ніякага следу... Аднак яго памятаюць усе, хто яго ведаў, і ў сэрцах сваіх сяброў ён вечна жывы. Вечная яму памяць. Хай свяціцца імя Яго!.."

Цяжка склаўся лёс і астатніх. Параскідалі іх па канцлагерах, лесапавалах, шахтах. Некаторыя гінулі ў Джэзказгане на медных рудніках, прыкаваныя да тачак. Аднак урэшце памёр "бацька ўсіх народаў" — пачаліся перасуды, скарачэнні тэрмінаў, амністыі. Пачалі вяртацца на бацькаўшчыну і колішнія падпольшчыкі, змардаваныя, з падарваным здароўем. Хто застаўся потым на радзіме, але большасць эмігравала ў Польшчу, Летуву, на Украіну. Катаванні ў вязніцах, нялюдская праца пакінулі цяжкі след — шмат хто з іх ужо памёр, хоць па гадах маглі б яшчэ жыць.

У напісаным мной, пэўна ж, ёсць недакладнасці, напоўнасці. І гэта зразумела — адзін чалавек аматарскім чынам не можа аб'ехаць усіх колішніх удзельнікаў падполля, іх знаёмых і блізкіх, запісаць успаміны, папрацаваць у архівах (калі толькі туды зараз пусцяць...). У незалежнай Беларусі гісторыю нацыянальнага патрыятычнага руху — смаргонска-мядзельскага, глыбоцка-пастаўскага, слонімскага, баранавіцкага, навагрудскага і г. д. — будуць, безумоўна, яшчэ даследаваць цэлыя інстытуты, пра нашых, сёння пакуль амаль безназоўных, патрыётаў напішуць кніжкі, здымуць кінафільмы. Іхнімі імёнамі назавуць плошчы і вуліцы гарадоў, а ацалелыя ветэраны атрымаюць вышэйшыя дзяржаўныя ўзнагароды са знакам "Пагоні". Бо яны ахвяраваліся маладосцю, здароўем і нават жыццём, як казаў адзін з герояў "Споведзі" Ларысы Геніюш: "Дзеля славы Беларусі". А пакуль што, пакуль... Будзем самі, супольнымі намаганнямі збіраць і захоўваць нашу гераічную спадчыну, дзеля нас жа саміх, нашых дзяцей і ўнукаў у вольным Краі.

**Міхась ЧАРНЯЎСКІ.**
("БМ", № 1, 1997.)

Замежжа

## Новы турызм

Мільёнам амерыканцаў і жыхароў іншых краін законы дазваляюць лёгка набываць зброю, выязджаюць з ёй на прыроду і, каб пацешыць сябе, паліць ва ўсе бакі. У адрозненне ад іх грамадзяне Германіі не маюць гэткай магчымасці, але жаданне часткі іх пагуляць у вайну ад таго не меншае.

Там, дзе існуе попыт, з'яўляецца прапанова. Нядаўна гаспадар адной з турыстычных фірмаў Гамбурга пачаў прапаноўваць сваім кліентам незвычайныя вандроўкі. У надрукаваных ім рэкламных буклетах стракоча ад лозунгаў кшталту "Абсалютнае шаленства" ці "Тры дні неверагодных прыгодаў". Удзельнікі тура — абяцае арганізатар — усяго толькі за 8 000 марак змогуць паездзіць на танку, пастраляць з гарматы ды пасядзець у кабіне баявога самалёта, што ляціць з падвоенай хуткасцю гуку на вышыні 18 000 метраў. Гэтыя незвычайныя прыгоды маюць адбывацца ў месцы дыслакацыі аднаго з вайсковых злучэнняў Украіны.

Як здолелі немцы наладзіць супрацоўніцтва з украінскімі вайскоўцамі? Адзін з супрацоўнікаў фірмы аказаўся выхадцам з СССР. У Германіі ён адшукаў свайго знаёмага — былога афіцэра савецкай арміі, які, у сваю чаргу, скантактаваўся з украінскім генералам, які і даў згоду вазіць да сябе турыстаў. Праўда, армія Украіны не мае права займацца валютнымі камерцыйнымі аперацыямі, таму гамбургскі камерсант аплачвае яе паслугі кампутарамі, факсамі ды тэлефонамі.

Фірма атрымала ўжо каля сотні заявак — як ад прыватных асобаў, так і ад сваіх калегаў з ЗША, гатовых наладзіць з ёй супрацоўніцтва ў вайсковым турызме. Першая група, у якую ўвайшлі не толькі турысты, але і журналісты з прыватных тэлекампаніяў, наведала Украіну ў снежні.

Як высветлілі нямецкія журналісты, гульні ў вайну ў іхняй краіне карыстаюцца попытам. Так, клуб уладальнікаў машын "Порш" прадае аматарам страляніны пуцёўкі на два выхадныя дні ў Расію. Там, заплаціўшы 24 000 марак, яны могуць перавысіць хуткасць "Порша" на самалёце МІГ-29.

Сярод краінаў былога сацыялістычнага лагера ад Украіны і Расіі не адстаюць і іншыя. Таму сёння тыя ж амерыканцы за 12 000 долараў могуць апынуцца на месцы былых баёў у джунглях Паўднёвага В'етнама і пастраляць там з любога віду зброі.

Што тычыцца Беларусі, дык у падобнай турыстычнай індустрыі яна, развітаўшыся з большай часткаю вайсковай тэхнікі, наўрад ці можа прэтэндаваць на месца лідэра. Але не варта губляць надзеі. Магчыма, праз нейкі час у турыстычных бюро заходніх краінаў з'явяцца новыя рэкламныя плакаты кшталту "25 сакавіка 1997: дзень у шэрагах менскага АМОНа!"

## Помнік свабодзе

Чаму дагэтуль не забытыя імя і творчасць Фрэнка Запы, амерыканца, які за жыццём сваімі спевамі і паводзінамі шакіраваў публіку, псаваў нервы музычным крытыкам і свецкай эліце, а незадоўга да смерці атрымаў ад свайго сябра, прэзідэнта Чэхіі Вацлава Гавэла прапанову заняць пасаду міністра культуры гэтай краіны? Бо ён быў асобаю — адкажуць на гэтае пытанне сотні тысячаў прыхільнікаў ягонай творчасці па ўсім свеце.

Менавіта па ўсім. Бо сёння нават Вільню — горад Гедыміна, Скарыны і Каліноўскага ёсць падставы называць і горадам Запы. Нядаўна на адной з гарадскіх вуліц яму быў усталяваны помнік.

Вось як тлумачыць яго з'яўленне адзін з кіраўнікоў віленскага клуба Фрэнка Заппы (ёсць там і такі!) Саўлюс Пілінкус:

— Чаму Запа ў Вільні? У свой час людзі з гарадскога кіраўніцтва таксама ставіла гэтае пытанне. Яны цікавіліся паходжаннем Фрэнка, ягонай нацыянальнасцю. Былі нават здагадкі — ці не габрэйскай ён крыві, бо ж Вільня вядомая як важны габрэйскі цэнтр.

Але гэты помнік пастаўлены не толькі таму, што нам падабаецца гэты музыка, кампазітар і выканаўца. Помнік — больш, чым знак павагі да асобы. Гэта своеасаблівы помнік і нам самім, выказ ідэяў і пачуццяў, блізкіх нам самім. Запа — гэта свабодная асоба, самая блізкая да нас.

Але віленцы — не заснавальнікі, а толькі прадаўжальнікі традыцыі ўшанавання памяці свабодных асобаў. Бо яшчэ некалькі гадоў таму адной з вуліц сталіцы Польшчы было нададзена імя яшчэ аднаго сусветна вядомага ідэолага асабістай свабоды — Джона Лэнана. Што тычыцца сталіцы суседняй з Летувой і Польшчаю Беларусі, дык тут падобная традыцыя мае даўнія карані. Гарадскія вуліцы ўпрыгожваюць помнікі і імёны грамадзян чужых краінаў — Леніна, Дзяржынскага ды дзесяткаў іншых, якія змагаліся за свабоду — персанальна для сябе.

**Падрыхтаваў У.П.**

*Уражанні*

## НА РАДАСЦЬ ВЕЧНА "ЎЧАРАШНІМ"

Карэспандэнт Інтэрфакса Вячаслаў Зяньковіч у адным з чэрвеньскіх нумароў "Народнай газеты" даў інтэрв'ю, якое ўзяў ад унука "бацькі ўсіх народаў" Яўгена Джугашвілі. Артыкул "ажыўлены" ягоным фота з партрэтам дзядулі на заднім плане. Унук у сваіх адказах на пытанні журналіста, што тычыліся злачынстваў "вялікага Кормчага" над народамі былога СССР, пастараўся абяліць, апраўдаць яго, маўляў, Сталіну дарэмна прыпісалі стварэнне ГУЛАГа, славутых "троек" і "двоек" па рэпрэсіях, ідэалогіі цэнзуры. Усё гэта, лічыць Я. Джугашвілі, справа рук Л. Троцкага, які з 1918 па 1937 гады ажыццяўляў генацыд у СССР, у першую чаргу над расійскім народам (быццам не было мільёнаў рэпрэсіраваных беларусаў і прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцяў), па яго указаннях узрывалі цэрквы і г. д.) І толькі Сталін у 1937 годзе пакараў Л. Троцкага і падручных ягонымі ж метадамі.

Факты тут, як кажуць, пастаўленыя з ног на галаву. Не адмаўляю таго, што Л. Троцкі ў гады грамадзянскай вайны, з'яўляючыся галоўнакамандуючым Чырвонай Арміяй, не без ведама Леніна, нямала пастараўся для развязвання чырвонага тэрору. У генацыдзе ж 30-х — 40-х гадоў ягонай віны няма, бо ўжо ў 1927 годзе Л. Троцкі па загадзе Сталіна быў сасланы ў Алма-Ату, а ў 1929 выдвараны за межы СССР. І Сталіну ніхто не перашкаджаў раскручваць махавік рэпрэсій, асабліва пасля забойства Кірава ў 1934 годзе. З Л. Троцкім, як з небяспечным палітычным праціўнікам, што працягваў расказваць праўду пра крамлёўскага дыктатара, ён расправіўся ў 1940 годзе ў Мексіцы рукамі наёмнага забойцы, а не ў 1937-м, як сцвярджае Я. Джугашвілі.

Можна зразумець пазіцыю ўнука, для якога дзядуля да канца дзён застаецца "сваім", а значыць —. непарочлівым. А вось пазіцыя карэспандэнта, які прадаставіў слова "отриску" Сталіна і ні словам не пракаментараваў ягоныя вартыя жалю сцвярджэнні, здзіўляе сваёй "памяркоўнасцю". А можа, аўтар таксама лічыць, што ўсё ў жыцці Сталіна было так, як распавёў на старонках самай масавай рэспубліканскай газеты ўнук "вялікага Кормчага"? Ва ўсякім разе, ягонае інтэрв'ю толькі на руку тым вечна "ўчарашнім", хто ў дні "рэвалюцыйных" святаў выходзіць на плошчы і вуліцы Менска з партрэтамі Сталіна.

**М. ТЫЧЫНА.**
г. Слуцк.

# Кола сям'і

*Масару ІБУКА*

## Пасля трох ужо позна

(Працяг.)

### *Поспехі ў адной справе даюць упэўненасць у іншых справах*

Як мы ўжо неаднойчы сцвярджалі, урокі ігры на скрыпцы ці заняткі замежнымі мовамі патрэбныя не для таго, каб вырасціць з дзіцяці генія, але галоўным чынам каб спрыяць яго агульнаму інтэлектуальнаму развіццю. Для дзіцяці карысней спрабаваць свае сілы ў разнастайных занятках, з магчыма больш шырокім колам прадметаў, чым засяроджвацца на чымсьці адным.

З іншага боку, калі яно дасягае поспехаў у адной галіне, гэта надасць яму ўпэўненасці ў сабе і яно будзе больш паспяхова прасоўвацца ў іншых занятках.

Прыкладаў такога кшталту вельмі шмат. У класе доктара Сузукі быў вельмі сарамлівы трохгадовы хлопчык. Ён кепска размаўляў у параўнанні з іншымі дзецьмі, яны з яго смяяліся і не прымалі ў свае гульні. Калі яму прапанавалі паспрабаваць пайграць на скрыпцы, ён расплакаўся і да яе нават не дакрануўся. Праз пару месяцаў наведвання класа цярплівага доктара Сузукі дзіця пачало іграць, а праз шэсць месяцаў яно ўжо лепей за ўсіх выконвала піцыката. Гэта надало яму ўпэўненасці ў сваіх сілах. Да здзіўлення бацькоў, хлопчык пачаў займацца па ўласнай ініцыятыве. Больш за тое, ён зрабіўся нашмат больш таварыскім і энергічным у іншых справах. Ён нярэдка ўдаваў з сябе дырыжора, стаў завадатарам сярод суседскіх дзяцей, і яго мова зусім выправілася.

Такіяператварэнні адбываюцца і з дарослымі, але ў маленькіх дзяцей, у якіх псіхалагічныя перажыванні яшчэ не глыбокія, падобныя змены адбываюцца нашмат лягчэй.

## 3. Творчасць і навыкі

### Дайце свайму дзіцяці алоўак як мага раней

У восем месяцаў дзіця ўжо можа ўтрымаць алоўак. Хапальныя здольнасці лепей, чым нешта іншае, сведчаць пра здаровае развіццё дзіцяці. У гэтым жа ўзросце дзіця пачынае рваць кніжкі, раздзіраць на часткі цацкі і даводзіць маці да адчаю. Іншымі словамі, дзіця ўваходзіць у стадыю самасцвярджэння.

Важна разумна накіроўваць учынкі дзіцяці, таму што ад гэтага залежыць яго будучая здольнасць да творчасці. Дайце дзіцяці каляровыя алоўкі. Яно, зразумела, адразу ж пачне маляваць абы-дзе. Калі ж вы дасцё яму аркуш паперы, яно накрэсліць некалькі крывых ліній і хутчэй за ўсё парве паперу. Для вас гэта проста крамзолі, а для яго гэта самавыяўленне.

Аднак многія бацькі мімаволі падаўляюць гэтае імкненне да самавыяўлення. Яны навязваюць свае ўяўленні: "Трымай алоўак вось так!", "Яблыкі павінны быць чырвонымі!", "Малюй круг вось так", "Не рві кніжку", "Не кідай паперу на падлогу", "Не пішы на стале". Ці не зашмат забаронаў для аднаго маленькага дзіцяці?

Часам дом, дзе ёсць маленькае дзіця, уражвае сваёй чысцінёй і парадкам. Звычайна госць робіць кампліментмент маці, якая ўтрымлівае дом у такім парадку і за дзіцем паспявае глядзець. Сапраўды, догляд за дзіцем з раніцы да вечара не пакідае ні часу, ні сіл для падтрымання чысціні ў доме. Для маці было б шокам даведацца, што яе добрасумленнасць у вядзенні гаспадаркі перашкаджае творчаму развіццю яе дзіцяці.

Усё, што дзіця робіць рукамі — малюе, раскідвае цацкі, рве паперу, — развівае яго інтэлект і творчыя задаткі. Чым хутчэй вы дасцё дзіцяці алоўкі, тым лепшымі будуць вынікі. Але калі адначасова вы будзеце штохвіліну яго спыняць, то ўсё роўна вы тым самым перашкодзіце развіццю яго творчых здольнасцяў.

### Стандартная папера для малявання — стандартны чалавек

Мастак-ілюстратар Хірашэ Мінабе незадаволены сённяшнім выхаваннем дзяцей да трох гадоў. Некаторыя яго ідэі, на мой погляд, заслугоўваюць увагі.

Напрыклад, ён гаворыць, што перш чым пачаць карціну, мастак вырашае, якога фармату яна будзе. Дзіцяці ж даюць стандартны ліст паперы і такім чынам ужо пазбаўляюць яго магчымасці выбару.

Такія ж адносіны мы назіраем і ў іншых пытаннях. Напрыклад, лічыцца, што дзіцяці падыходзяць толькі спецыяльныя дзіцячыя песенькі і казкі. Такая адсутнасць уяўлення з боку дарослага ўжо чаргу абмяжоўвае ўяўленне дзіцяці.

Калі дзецям прапануюць аркушы паперы толькі стандартнага памеру, яны падсвядома засвойваюць думку, што ўсе малюнкі павінны быць толькі такога памеру і што гэта тое, чаго ад іх хочуць бацькі і выхавацелі.

Дзіця бачыць агромністы свет (нашмат большы, чым бацькі могуць сабе ўявіць), калі яно ўпершыню бярэ ў рукі алоўак і знаходзіць, што ён можа пакідаць сляды на паперы. Гэты агромністы свет нашмат большы, чым стандартны аркуш паперы. Я б даваў дзіцяці агромністы аркуш паперы, каб яно поўзала па ім і малявала. Стандартны аркуш спрыяе выхаванню стандартнага чалавека, пазбаўленага творчасці і дастатковай жыццёвай трываласці.

(Працяг будзе.)

*Як на дзіцячы розум*

### Сержык і Камароўка

Сержыкава мама збіраецца на рынак. Гукае з сабой і Сержыка:

— Паедзеш са мной на Камароўку?

— Не! — кажа той трохі спалохана.

— А чаму?

— Я камароў баюся. У мяне ад іх алергія...

Сержыку патлумачылі, што Камароўка — гэта рынак, дзе можна нешта купіць і прадаць.

З'ездзіў Сержык на тую Камароўку і вельмі здзівіўся: завецца Камароўкай, а ніводнага камара не ўбачыў, адно толькі там людзі, як камары, таўкуцца.

**Уладзімір СОДАЛЬ.**

### Лерачка, 2 г. 8 мес.

Пахваляецца сукенкай сваёй маці:

— Вось, бабулечка, калі ты будзеш такой, як мая мама...

— Не, — перапыняе яе бабуля, — я ўжо ніколі не буду такой, як твая мама. Гэта ты будзеш такой.

— І ты будзеш такой, — настойвае на сваім Лерачка, — калі добра станеш сябе паводзіць... І тады мая мама дасць табе гэтую сукенку адзін дзень панасіць.

**Учула Л.СУДЗІЛОЎСКАЯ.**



Беларусачка. "Вось сяджу сабе і думаю".
Даслаў наш чытач **Уладзімір ХРЫСЦЮК.**
г.Брэст.

*Здароўе*

*Таццяна ФАМІНА,*
*кандыдат медыцынскіх навук*

## Вітаміны групы В

### Пантатэнавая кіслата

Гэтым вітамінам, які, паводле некаторых навукоўцаў, можа прадоўжыць чалавечае жыццё нат на 10 гадоў, даволі багатыя розныя харчы раслiннага і жывёльнага паходжання. Згадаем некаторыя: піўныя дрожджы — 14—35 мг%; ялавічныя печань — 4—9, ныркі — 2,5—4,0; яйка — 1,4—2,7; жаўток — 2,7—7,0; мяса курынае — 0,5—0,65; мяса іншых жывёлаў — 0,57—1,06; траска — 1,6; бульба — 0,32—0,65; сыр — 0,28—0,52; малако — 0,3; капуста — 0,18—0,8 мг%. Апроч таго — у аўсе, вотруб'і, індычыне.

Як бачым, назва гэтага вітаміну, якая паходзіць ад грэцкага pantoten, што азначае "з усіх бакоў", цалкам слушная. Сутачная патрэба пантатэнавай кіслаты — 10—12 мг (цяжарным і асобам, хто цяжка працуе — 15—20 мг). Ды бяда ў тым, што пад час гатавання стравы страта гэтага вітаміну сягае 25—50%, праз што можа ўзнікаць яго дэфіцыт у арганізме. Вітамінная недастатковасць можа развівацца таксама праз працяглыя інтаксікацыі, хваробы страўнікава-кішэчнага тракту, сардэчна-сасудзістай сістэмы і нырак, пры частым ужыванні мачагонных сродкаў.

Але калі спажываць дастатковую колькасць пантатэнавай кіслаты, то можна выбегчы рознага алергіі, скураных хваробы. Да таго ж, добра будуць расці валасы.

### Параамінабензойная кіслата

Гэтае рэчыва, якое фактычна не з'яўляецца вітамінам для чалавека і жывёлаў, мае адметныя ўласцівасці, што выкарыстоўваюцца пераважна дзеля лячэння рака скуры. Гэтая хвароба ўзнікае ад празмернага захаплення загарам. Розныя замежныя крыніцы падаюць лічбу такіх хворых — 300 тысяч, што складае трацiну ўсіх анкалагічных захворванняў. Бландзінам, рудым такое пагражае найчасцей, таму ім раяць перад загарам смараваць скуру крэмам; у склад якога ўваходзіць і параамінабензойная кіслата.

На жаль, сутачная норма гэтага вітаміну не вызначаная. А ўтрымваецца яна, апроч харчоў, багатых на пантатэнавую кіслату, яшчэ і ў грыбах.



*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*

*Францішак Багушэвіч.*

**Беларускае адраджэнне**

Алена ЯСКЕВІЧ,
кандыдат філалагічных навук

# Фальклорныя вытокі беларускай літаратурнай балады

Стаўленне нацыянальнай літаратуры, як і яе паасобных жанраў, адбываецца на складаным скрыжаванні нацыянальных традыцый і ўплываў больш развітых суседніх літаратур. І неправамерна пры гэтым было б ставіць так пытанне, што пры гэтым пераважала — традыцыі ці ўплывы. І тое, і другое аднолькава было важна.

Для нас узорам у гэтым плане служыць вопыт А. С. Пушкіна, які, плённа засвойваючы дасягненні найбольш развітых па тым часе французскай, нямецкай і англійскай літаратур, за аснову ўсё ж бярэ сваю нацыянальную традыцыю. Накідваючы ў 1822 г. агульны артыкул пра рускую літаратуру, паэт запісвае: "Не вырашу, якой славеснасці аддаць перавагу (прымерванне да развітых заходнееўрапейскіх літаратур. — **А. Я.**), але ёсць у нас свая мова: смялей! — звычаі, гісторыя, песні і інш."[1])

Пры разглядзе генезісу беларускай балады і станаўлення яе як жанру мы таксама знаходзім, з аднаго боку, багатую нацыянальную аснову, а з другога — вучобу нашых пачынальнікаў на ўзорах сусветнай літаратуры.

Трэба сказаць, што беларуская вусна-паэтычная творчасць к часу з'яўлення прафесійнай літаратуры мела даволі развітыя традыцыі народнай балады.

Паводле вызначэння сучаснага даследніка гэтага фальклорнага жанру Л. М. Салавей, беларуская народная балада — жанр ліра-эпічны з дастаткова выяўленымі элементамі драматызацыі апавядання. Спектр жыццёвых настрояў, які адлюстроўвае гэты жанр, вельмі шырокі, таму і адпаведна спосабаў выяўлення рэчаіснасці ў баладзе вельмі многа: ад ліра-элегійнага да казачна-эпічнага, ад падкрэслена рэалістычнага, нават бытавога, да цалкам фантастычнага ці гуллёва-ўмоўнага.

Да стылёвай адметнасці беларускай фальклорнай балады даследнік адносіць натуральнасць яе апавядання, ашчаднасць выяўленчых сродкаў. Побач са сціплым, амаль схематычным выкладаннем допускаецца мерная дэталізацыя, элементы апісальнасці, паўторы, часам малююцца абразкі роднай прыроды, працы і быту чалавека, што, на погляд даследніка, перанята непасрэдна з абрадавай паэзіі[2]).

У цэнтры баладнага сюжэта нярэдка лёс чалавека з невычэрпнаю сілаю духу, нескаронай верай у сваю праваТу. У самой смерці, якую герой прымае пакорна і сціпла, — ёсць ужо адмаўленне зла, надарэчных праяў жыцця. Маральная перамога героя — характэрная рыса народнай балады.

І духоўнасць балады фальклорнай вельмі рэдка пераклікаецца з сярэднявяковым аскетызмам, — народная мараль абараняе права чалавека на самае простае, шчырае зямное шчасце, зямное каханне, трапяткое і гарачае, імгненнае і вечнае.

Справа ў тым, што народная балада ўзнікла ў часы глыбокай старажытнасці і бярэ свой пачатак у дакласавым грамадстве перыяду разбурэння першабытнай фармацыі. Вось адкуль багацце разнастайнай і незвычайнай яе тэматыкі.

Паводле класіфікацыі чэшскага акадэміка Горака, беларуская балада адносіцца да заходнеславянскай баладнай акругі, згодна з удакладненнем Земана — да беларускалетувіска-украінскага пояса.

З боку сюжэтнай характарыстыкі вучоныя выдзяляюць балады з міфалагічнымі матывамі, балады казачныя і легендарныя, балады, якія змяшчаюць загадкі, балады гуллёва-карагоднага складу і балады навелістычныя.

Неабходна адзначыць, што да XVIII стагоддзя народная балада склалася як жанр і завяршыла свой найбольш прадуктыўны перыяд развіцця.

Беларуская народная балада, як і ў цэлым уся вусна-паэтычная творчасць развівалася ў цесным кантакце з польскай, рускай і украінскай. І таму ў распараджэнні даследніка найцікавейшы матэрыял для параўнання пры вызначэнні асаблівасці шляхоў развіцця нацыянальнай балады.

Руская балада, напрыклад, характарызуецца паслабленай лірычнасцю. Але справа ў тым, што лірызм балад носіць адметны характар, не падобны на лірызм песень, гэта хутчэй — "эмацыянальнасць, спалучаная з драматызмам сюжэта"[3]). Украінскай баладзе, на думку даследнікаў, як і польскай, не стае яскрава выражанага драматызму. У такім выглядзе польскія і ўкраінскія даследнікі разглядаюць нацыянальную баладу, вызначаючы яе жанравыя прыкметы.

А. М. Кінько, напрыклад, дае такое азначэнне ўкраінскім баладам — "ліра-эпічныя песні, блізкія на сваім характары да легенд пра незвычайныя трагічныя падзеі і пераважна з сямейнага жыцця"[4]).

У польскіх даследнікаў фальклору вызначэнне балады супярэчлівае. Ю. Крыжаноўскі, аўтар "Słownika folkloru polskiego", лічыць баладу жанрам ліра-эпічным і, характарызуючы сутнасць яе, як жанру, дадае, што "зместам яе заўсёды было нейкае поўнае напружання здарэнне, гістарычнае або выдуманае, выкладзенае спецыфічным спосабам"[5]).

Азначэнне народнай балады Станіславам Чэрнікам больш шматграннае. Ён звяртае ўвагу на моцны эпічны і драматычны струмень у польскай баладзе, хаця не выпускае з поля зроку і элементы лірыкі. У "Polske epike ludowe" С. Чэрнік піша: "Звычаёва-маральная эпіка згрупавалася ў драматычных аповесцях, якія называюцца баладамі. У гэтым тыпе эпікі калі-нікалі з'яўляецца лірычны каментарый, часам таксама агульны настрой аповесці бывае насычаны пачуццёвымі фарбамі, але, незалежна ад тых уласцівасцяў, песні звычаёва-маральныя у аснове застаюцца эпікай і далёка ім да пагранічча. Але існуе таксама і пагранічча: ліра-эпіка, значэнне яго малое".

З вышэйадзначанага вынікае тое, што ў жанравых адносінах найбольш блізкія беларуская і польская народныя балады, яны маюць найбольш момантаў сутыкнення.

І гэтая роднасць вусна-паэтычных традыцый, абумоўленая пэўнымі гістарычнымі ўмовамі, садзейнічала таму, што беларуская літаратурная балада напачатку свайго станаўлення і развіцця арыентавалася, мела за ўзор польскую літаратурную баладу, якая дасягнула асаблівага росквіту ў творчасці Адама Міцкевіча і іншых польскіх рамантыкаў.

---

*1) Пушкин А. С. Полн. собр. соч. в 10-ти т., М., 1949, т. VII, с. 553.*

*2) Салавей Л. М. Беларуская народная балада. Мн., 1978, с. 88.*

*3) Славянская филология. Т. IX. София, 1968, с. 67.*

*4) Українська поэтична творчість, т. І. Дэжовневий період. Київ, 1958, с. 571.*

*5) Słownik folkloru polskiego. Pod red Juliana Krzyzanowskiego. Warsawa, 1965, s. 37.*

**Ствараем энцыклапедыю "Новай зямлі"**

# Суседскія пераклады

(Працяг.)

Над перакладам менскага выдання "Новай зямлі" працавалі некалькі расійскіх паэтаў. Мабыць таму Якуб Колас застаўся незадаволены. Ён хоць і здаў рукапіс, адрэдагаваны сумесна з С. Гарадзецкім, 6 ліпеня 1947 года ў выдавецтва, але ўжо назаўтра занёс туды папраўкі. Але на гэтым не скончылася. У сакавіку 1948 года Якуб Колас пісаў Пятру Сямыніну: "Пераклад я затрымаў, хоць мяне і падганяюць. Вы — хачу спадзявацца — не будзеце папракаць мяне за гэтую затрымку, таму што я хачу сур'ёзна паставіцца да выдання "Новай зямлі" на рускай мове. Я паслаў Гарадзецкаму тэлеграму з просьбай прыехаць да мяне дзеля перагляду пераклада... Націсніце на Гарадзецкага, каб ён ад імя ўсяго калектыва перакладчыкаў "Новай зямлі" прыехаў у Мінск".

Але С. Гарадзецкі толькі тэлеграфаваў, што не зможа выканаць просьбу аўтара. Якуб Колас зноў і зноў турбуе маскоўскага сябра. І яго можна зразумець. "...Бо гэтая паэма — вялікі кавалак майго жыцця. Мне хацелася паказаць яе праз магчыма лепшы пераклад на рускую мову. На Беларусі паэму вельмі добра ведаюць, таму людзі так прыдзірліва ставяцца і да тэкста рускага перакладу. А хіба ты будзеш сцвярджаць, што пераклад атрымаўся на належнай вышыні?" — даводзіць паэт С. Гарадзецкаму. Але той катэгарычна адмовіўся ад удасканалення перакладу.

Да нежадання С. Гарадзецкага траціць час на грунтоўную перапрацоўку зробленага, відаць, далучалася яшчэ штосьці. У цытаваным лісце згадваецца, што не аднойчы ў доме С. Гарадзецкага ягоныя сябры ставіліся да менскага госця не па-сяброўску. Ды на гэта Якуб Колас не звяртаў увагі дзеля сяброўства і прыхільнасці. Забягаючы наперад, згадаю, што гэтае сяброўства перажыло і нашмат больш цяжкія выпрабаванні. Варта дадаць, што менавіта Якуб Колас "забыўся" на крыўды. Дарэчы, і гэты, з выказанымі папрокамі, ліст Якуб Колас заканчвае словамі "моцна абдымаю".

На шчасце, маскоўскія сябры не пакінулі нашага паэта без дапамогі. Адгукнуўся Пётр Сямынін, які пасля вайны ўдзельнічаў у перакладзе "Новай зямлі". Колас запрасіў яго да сябе ў Менск і паслаў грошы на дарогу. І неўзабаве маскоўскі госць заняў рабочы стол Якуба Коласа, але ён радаваўся, што "ўсе пераклады будуць перагледжаны адным чалавекам..." Ды аднымі "пераглядамі" не абышлося. П. Сямыніну давялося, працуючы "як чорны вол", перарабляць амаль усё. Пра гэта Якуб Колас пісаў "дарагому Сяргею" праз паўтара месяца пасля таго ліста, не дачакаўшыся адказу: "Выпраўленне перакладаў "Новай зямлі" ідзе поўным ходам... Агулам наўрад ці застанецца 20 % першапачатковага перакладзенага тэксту. Але пераклад у новай рэдакцыі загучыць зусім інакш. Над перакладам працуе П. А. Сямынін. Працуе вельмі ўважна, шчыра, сумленна, па 15 гадзін у суткі..."

Прыблізна праз месяц Якуб Колас, занепакоены маўчаннем С. Гарадзецкага, напісаў яму ліст, ведаючы прычыну маўчання сябра: "Мне цяпер ясна, што ты вырашыў наогул не пісаць мне. Гэта вынікае нават з таго, што, як мне перадалі, ты заняў у адносінах да мяне надта несяброўскую пазіцыю: вядзеш "благародную" агітацыю ў стаўленні да "Новай зямлі", што гэта — кулацкая паэма. Так гэта ці не, не ведаю. Але калі гэта так, то хай будзе тваім суддзём тваё ўласнае сумленне. Шматгадовае сяброўства наша павінна было стрымаць цябе...

Зычу табе здароўя, дабрабыту, поспехаў. "Ліхам мяне памінаць" не варта — я ніколі не даваў табе такой нагоды". Ліст не заканчваўся звычайным "Твой Костусь", "Моцна абдымаю" ці "Цалую".

Перапіска Якуба Коласа і С. Гарадзецкага на гэтым не спынілася. Аўтар "Новай зямлі" паведамляў сябру пра шчаслівы лёс перакладу, а С. Гарадзецкі радаваў беларускага паэта добрым словам пра яго ў "Литературной газете".

**Здзіслаў СІЦЬКА.**

*(Заканчэнне будзе.)*

**Культура мовы**

А. ПАДЛУЖНЫ,
акадэмік, доктар філалагічных навук

# "РАС ПАВЁЎ, ДВА ПАВЁЎ..."

## Дзеяслоў *распавесці* ў беларускай мове

У нашым перыядычным друку досыць шырока сталі ўжывацца лексемы з коранем *-вед-* з агульным значэннем 'ведаць': **распавесці, аповед, расповед.** У розных перыядычных выданнях тыповым стала выкарыстанне гэтых лексем як сродку барацьбы з "трасянкай", каб надаць тэксту больш беларускасці, пазбегнуць тых слоў, якія з'яўляюцца агульнымі для беларускай і рускай моў: *Дырэктар нарыхтоўчай фірмы "Румб" Анатоль Шчарбакоў* ***распавёў*** *карэспандэнту "Свабоды", што гэтыя падручнікі ў якасці другаснай сыравіны здалі школьныя бібліятэкі.* ("Свабода", 24 чэрвеня 1996 г.); *Пакуль бульбачка пячэцца, я вам казку* ***распавяду*** ("Полымя", 1995, № 3, с. 8); *Ды ў і* ***роспаведзе*** *пра эміграцыю паэта земляка даследчык не "сягае" ў многія, выключна беларускія акалічнасці* ("Маладосць", 1995, № 4, с. 247); *Падзеі, якія падштурхнулі мяне да* ***расповеду****, адбыліся ў маі 1979 г...* ("ЛіМ", 25 жніўня 1995 г.); *З вялікай зацікаўленасцю і разуменнем Ларыса Антонаўна выслухала мой* ***аповед*** *пра малодзь з Пастаўскага і Глыбоцкага педвучылішчаў...* ("Наша слова", № 33-34, 1995 г.). Адсюль яны пашырыліся на радыё і тэлебачанне, дзе гучаць з раніцы да вечара. Крыніца іх з'яўлення ў беларускай мове відавочная — усё гэта запазычанні з мовы ўкраінскай, дзе гняздо з гэтым коранем досыць вялікае (*доповісти, відповісти, розповісти* і г.д.).

Пра гэтыя дзеясловы украінская граматыка піша, што ў цяперашнім і ў будучым часе закончанага трывання яны маюць асабовыя канчаткі, невядомыя іншым дзеясловам, а таму яны не належаць ні да першага, ні да другога спражэння. Далей указваецца: "Іх аб'ядноўваюць у асобную групу, якую часам называюць архаічнай групай дзеясловаў" (М. А. Жовтобрюх, Б. М. Кулик. Курс сучасної мови. І частина. Київ, 1965, с. 366). На наступнай старонцы гэтага выдання падаецца ўзор спражэння дзеяслова *розповісти*:

| Адзіночны лік | Множны лік |
|---|---|
| 1-я ас. *розповім* | *розповімо* |
| 2-я ас. *розповіси* | *розповісте* |
| 3-я ас. *розповість* | *розповідять* |

Паколькі ў беларускай мове такія дзеясловы, а значыць, і іх формы не фіксуюцца ні ў гісторыі, ні па дыялектах, тыя, хто ўвёў іх у зварот, асучаснілі іх формы — спрагаюць дзеяслоў *распавесці* наступным чынам: *Я распавяду, ты распавядзеш, ён (яна, яно) распавядзе, мы распавядзём, вы распаведзяце, яны распавядуць.* У прошлым часе ўжываюцца формы *распавёў, распавяла*, што адпавядае ўкраінскім формам *розповів, розповіла*. Зрэдку ўжываюцца таксама і дзеясловы незакончанага трывання *апавядаць* (фіксуецца ўсімі слоўнікамі) і *распавядаць* (да нядаўняга часу ў літаратурнай мове не ўжываўся).

"Запазычвальнікі" яўна не ўлічылі той акалічнасці, што ў беларускай мове ёсць і яшчэ адно багатае гняздо з коранем *-вед-*, але са значэннем 'прыводзіць напрамак руху каму-, чаму-небудзь'. Калі паглядзець на парадыгму дзеясловаў з гэтым коранем, дык яна цалкам супадае з абноўленай парадыгмай ужо разгледжанага дзеяслова *распавесці*: *я павяду, ты павядзеш, ён (яна, яно) павядуць, мы павядзём, вы паведзяце, яны павядуць*; прошлы час — *павёў, павяла*.

Такім чынам, відавочна, што асучасніванне форм дзеяслова *распавесці* ажыццёўлена за кошт форм дзеяслова *весці*. Узнікае пытанне, у якой ступені такая падмена дапусцімая з пункту погляду сістэмы беларускай мовы.

Каб адказаць на яго, неабходна звярнуць увагу, што два карані *-вед*, якія ў сучасны момант з'яўляюцца амонімамі, у старажытнасці адрозніваліся гукавым складам, што знайшло адлюстраванне і ў тагачасных запісах гэтых каранёў: першы пісаўся з ѣ (*-вѣд-*), другі з *е* (*-вед-*). Гукі, што абазначаліся літарамі ѣ і *е*, адрозніваліся паміж сабой, і гістарычны лёс іх быў зусім розны. Так, ва ўкраінскай мове ѣ пераўтварыўся ў гук [ і ], а ў беларускай мове ён супаў з *е*, але гэты [е] ніколі не пераходзіў ў [о] у адрозненне ад этымалагічнага [е]. Так, да кораня *-вѣд-* узыходзяць словы *сведка, ведаць, паведаміць*, у якіх зараз у наяўнасці ўсё ўмовы для пераходу [е] у [о] (ё), але іх вымаўленне як *свёдка, вёдаць, павёдаміць* немагчымае, хоць мы вымаўляем *сёстры, вёсны, мёд* пад націскам пасля мяккага зычнага перад цвёрдым. Адсюль вынікае, што форма *распавёў* супярэчыць заканамернасцям гістарычнага развіцця старога гука ѣ — трэба было б *распавеў*, як *раз'еў, растаўсцеў, напеў.*

Носьбіты беларускай мовы, якія не знаёміліся з гістарычнай фанетыкай, інтуітыўна адчуваюць, што форма прошлага часу мужчынскага роду дзеяслова *распавесці* не можа быць такой, як яе прапануюць філфакаўскія троечнікі (*распавёў*). Таму і ўзнікла зусім у стылі Аркадзя Райкіна *рас павёў, два павёў, тры павёў*. Аснова гэтага жарту чыста сэнсавая (семантычная): кантэкст не можа цалкам схаваць падмену форм дзеяслова *распавесці* формамі часта ўжывальных дзеясловаў з іншай семантыкай (*весці, павесці, развесці* і г. д.).

Не лепш абстаяць справы і з назоўнікамі *аповед* і *расповед*. Тыя, каму вельмі ўжо любыя гэтыя словы, чамусьці пішуць іх двояка: у адных выпадках ужываюць напісанне *аповед, расповед*, у іншых — *аповяд, расповяд*: *"Збяруцца людзі, пачнуць лезці захмялелыя з* ***аповядамі*** *ды ўспамінамі* ("Полымя", 1995, № 2, с. 87); *А неўзабаве гісторыка — за п'янства ці за такія* ***аповеды*** *— выгналі са школы...* ("Крыніца", 1995, № 11—12, с. 41); [*Бабулька выцірае рукавом вочы і працягвае свой расповед* ("Народная газета", 21 сакавіка 1996 г.).]

Больш чуйныя да мовы аўтары разумеюць неадпаведнасць беларускай мове абодвух напісанняў, таму запусцілі ў зварот яшчэ адзін варыянт: *Хударлявы, нясмелы Косцікаў уважна слухаў ягоны* ***апавяд*** *пра заведзеныя ў турме парадкі, абавязковыя строгасці з арыштантамі* ("Полымя", 1995, № 1, с. 9). Але і ў гэтым варыянце справа не толькі ў перамяшчэнні націску, а больш за ўсё ў тым, што ѣ у беларускай мове перайшоў у е, а не ў я, як у польскай мове. Таму і форма *апавяд* штучная. Па-беларуску адзіна законнай формай з націскам на апошнім складзе была б *апавед*.

Няўстойлівасць націску ў сувязі з чужароднасцю назіраецца і ў назоўніку *расповед*: *...уся эміграцыйная наваградская тэма прадстаўлена* ***роспаведам*** *пра лёс усяго толькі Адама Міцкевіча* ("Маладосць", 1995, № 4, с. 249).

Што да напісанняў *аповед, расповед* і *аповяд, расповяд* дык са сказанага вышэй адносна пераходу ѣ у *е*, правільным было б толькі напісанне з *е*. Напісанні з *я* у занаціскным складзе маглі ўзнікнуць толькі пад уплывам польскай мовы (польск. *opowiádać*, дзе корань *-wiad-*, бо ў польскай мове ѣ пераходзіў у а(я). Але ў словах, агульных з польскай мовай, у беларускай мове пішацца *я* ў занаціскных складах толькі тады, калі гэта *я* ўзыходзіць да ę (*е* насавога): *pamięć — памяць*, *dziewięć — дзевяць* і г. д.

Такім чынам, разгляд новых запазычанняў *распавесці, аповед, расповед* паказвае, што пры любых варыянтах напісання і вымаўлення яны не ўпісваюцца ў агульныя фанетычныя заканамернасці беларускай мовы і ў сувязі з гэтым значнай колькасцю яе носьбітаў успрымаюцца негатыўна, нягледзячы на велізарныя намаганні сродкаў масавай інфармацыі пашырыць іх ужыванне. Іменна на гэтых негатыўных адносінах грунтуецца адзін з лінгвістычных жартаў С. Грахоўскага:

Творца меў адно жаданне, —
Пегаса ўхапіць за повад.
Стаў пісаць апавяданне,
А сяк-так зляпіў аповяд.

Без гэтых запазычанняў у літаратурнай мове дастаткова лексічных сродкаў, каб выразіць той жа змест натуральным і простым шляхам. Гэтым патрабаванням цалкам задавальняюць дзеясловы *расказаць (расказваць), паведаць, паведаміць*, назоўнікі *апавяданне, расказ*.

